© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 13 (1976) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 27 САКАВІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

# АДЗІН ДЗЕНЬ У РЫБАЛАХ



*У „жалезным" магазіне ў Рыбалах за прылаўкам Антаніна Трафімюк.*



*Мікалай Ігнацюк якраз памагаў ткаць дываны.*

Вёска Рыбалы налічвае 200 жылых дамоў. Некаторыя ўжо стаяць пустыя. У вёсцы 70 гаспадароў, 2 магазіны, пошта, парафія, асяродак здароўя, дом культуры і школа. За вёскай — птушкагадоўчы камбінат, які паўстаў у 70-х гадах. Там найбольш маладых сем'яў і дзяцей. Палова дзяцей у школе якраз з „камбіната".

Вёска Рыбалы знаходзіцца на дарозе з Беластока ў Люблін. З гэтай прычыны заўсёды тут вялікі вулічны рух. Здараюцца таксама катастрофы. Сёння (бо жыхары паяснілі, што заўсёды) на горцы ля царквы стаіць паліцэйская машына.

На самым пачатку пабыўкі ў вёсцы вырашаю наведаць праваслаўную плябанію. Сустракаюць там мяне добразычлівыя бацюшка з матушкай і унучкай. Айцец Рыгор Сасна з'яўляецца пастаянным чытачом „Нівы". Дзякуючы ягоным намаганням, кожны тыдзень пры царкве разыходзіцца 30 экземпляраў „Нівы", „Часопіса" і месячніка „Przegląd Prawosławny", а таксама царкоўныя выданні (да таго ж „Ніву" падпісваюць таксама на пошце).

Парафія ў Рыбалах налічвае 900 душ.

— Маем, як усе нашыя праваслаўныя парафіі, цяжкасці. З вёсак адплывае самы здаровы элемент. На 5 народжаных умірае 20 прыхаджан. Да таго ж усё часцей здараюцца мешаныя сужонствы. Гэта наша найбольшае няшчасце, — гаворыць настаяцель.

У сваёй 35-гадовай службе Царкве айцец Рыгор быў сведкам толькі некалькіх выпадкаў, калі католікі перайшлі на праваслаўе. У нашай рэчаіснасці змена веравызнання азначае і змену нацыянальнасці. Такім спосабам вялікая колькасць праваслаўных беларусаў з нашых вёсак і мястэчак парабілася натхнёнымі „polakami z krwi i kości".

— А так, у царкву прыходзяць пераважна старэйшыя людзі. Гэтыя людзі адрозніваюцца ад моладзі. Нават простыя бабулькі ведаюць і шануюць свае адвечныя каштоўнасці. І гэтыя людзі, як і моладзь, для мяне вельмі вартасныя, — расказвае айцец Рыгор Сасна.

Рыбалаўскі святар гаворыць пропаведзі на мясцовым дыялекце. Гэта вельмі павучальны і прыгожы прыклад. Слова „тутэйшы", паводле айца Рыгора, памагло нам пратрываць трагічныя падзеі нашага народа.

— Ужо не раз здавалася, што народ памрэ. Але, на маю думку, каб не было волі Божай, наш народ даўно ужо не існаваў бы, — кажа святар.

У натхнёным настроі пакідаю плябанію. Ужо поўдзень. Свае крокі накіроўваю ў невялічкі магазін. Магазін гэты нетыповы, на Падляшшы называюць яго „жалезным". І сапраўды, амаль усе тут вырабы з металу. Тут можна купіць усе патрэбныя ў гаспадарцы дробязі. За прылаўкам цётка Антаніна Трафімюк, якая заступае мужа. Многа тут сялян. Усе яны чакаюць школьнага аўтобуса, каб заехаць у Давідавічы.

— Добрэ, што нас нэ забываетэ, — гавораць вяскоўцы.

— Напішыце ў „Ніве", што ў нас у „рэмізі" дах працякае. Тыя, што бяруць грошы, не дбаюць пра будынак. А там усё гніе і гніе, марнуецца. І нікога гэта не абходзіць, — заяўляюць абураныя сяляне.

— Можа вам гарбату зрабіць, — пытаецца цётка Антаніна.

Такая прапанова ў магазіне сустрэла мяне першы раз у жыцці. Тут людзі гасцінныя. Потым завітала я да нашага журналіста Янкі Морданя. Янка пражывае тут са сваёй сям'ёй. Разам адведалі мы Мікалая Ігнацюка. Дзядзька якраз памагаў жонцы ткаць дываны. На мінулым тыдні захварэў ён грыпам. Сёння таксама не адчуваў сябе найлепш. Мікалай Ігнацюк вядомы на ўсёй Беласточчыне як душа калектыву „Хлопцы-рыбалоўцы". Ён таксама аўтар балад, у аснову якіх пакладзены навакольныя здарэнні.

— Я мовы лізнуў пры саветах. Цяпер беларускай мовай карыстаюся таксама як польскай. „Ніва" безупынна прыходзіць да нашай хаты з 3 нумара, — гаворыць дзядзька Мікалай. Музыка займае важнае месца ў жыцці спадара Ігнацюка.

— Нікоторы стоят пуд склепом, нікоторы грают в карты, а я люблю поспіваті, — кажа гаспадар.

Дзядзька Мікалай прызнаецца, што словы балад прыходзяць яму лёгка. І гэта для яго вялікая радасць. Калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы" існуе з 1981 года. Група налічвае ад 8 да 5 мужчын. Удзельнікі зменяюцца, бо некаторыя адыходзяць у гарады.

— Хотілося б, коб молодые приходілі, — сцвярджае Мікалай Ігнацюк.

У апошнім часе калектыў мае праблемы з інструктарамі. Актыўныя і адданыя сваёй працы людзі сустракаюць на сваім шляху бяссэнсныя бюракратычныя перашкоды. Складаецца ўражанне, што некаму вельмі залежыць патушыць энтузіязм нашых актывістаў. „Хлопцы-рыбалоўцы" не выступілі на сёлетнім фестывалі.

— Хотілося б, коб зэспул і далій быў, — закончыў дзядзька Ігнацюк.

Вечарэла. Да ад'езду аўтобуса засталася яшчэ гадзіна. Традыцыйна трэба было наведаць магазін. Якраз прадавалі ў ім сімпатычныя дзяўчаты. У Рыбалах спажывецка-прамысловы магазін адкрыты з 6 да 19 гадзіны. Працуе тут аж тры прадаўшчыцы. Кліенты заходзілі ўвесь час. Давялося мне пагутарыць з вясковай „кавалеркай". Вальдэк, Славік і Косця — беспрацоўныя.

— Мы як у войску былі, то не ўстыдаліся, што праваслаўныя.

А далёка служылі?

— У Свінавусці і ў Гіжыцку. У нас у вёсцы няма чым заняцца. Клуб адкрываюць у пятніцу, суботу і нядзелю. Знаходзіцца ў ім тэлевізар з перакрыўленым вобразам і настольная гульня „Chińczyk", — заяўляюць хлопцы.

Моладзі ўсё прыбывала. Усе прасілі напісаць, што яны хацелі б мець клуб для сваіх патрэб.

— Там толькі малышамі займаюцца. А калі б мы хацелі зрабіць „забаву", то трэба было б заплаціць за залу 1,5 мільёна. Сама забава не ў стане сфінансаваць кошт арэнды залы. Білет каштуе 30 тысяч, а яшчэ ж трэба наняць аркестр, — наракаюць маладыя.

Для вясковай моладзі „забава" гэта адна з важнейшых форм гульні і адпачынку. На ёй таксама можна пазнаёміцца з дзяўчатамі. У Рыбалах многа кавалераў. Хлопцы налічвалі ў сваёй вёсцы толькі сем дзяўчат.

Якраз папаўся мясцовы асаднік, недапіты Багдан. Калі пачаў са мной размову па-польску, хлопцы ўсхваляваліся і прагналі свайго знаёмага.

Расказвалі яшчэ, што калісь удзельнічалі яны ў многіх пастаноўках беларускіх п'ес. Найбольш запамяталася ім сцэнка „пра самагонку".

— Я „Ніву" не чытаю. Адну старонку чытаў бы хіба з тыдзень, — прызнаецца адзін з іх.

Моладзь успамінала, як калісь наехала ў Рыбалы журналістаў з „Kuriera Porannego":

— Панапісвалі чорт ведае што і гэта так, што ніхто не мог здагадацца ў чым справа. Вы хаця так не пішыце.

Рыбалаўскія хлопцы, пра якіх у народзе гавораць „стоят пуд склепом" былі вельмі гасціннымі і апякунскімі. Адвялі нават мяне на прыпынак і пасадзілі ў аўтобус. Абяцалі таксама чытаць „Ніву".



*У спажывецка-прамысловы магазін кліенты заходзілі ўвесь час.*

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Генерал Мечыслаў Грыб — старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, калі насіў пагоны падпалкоўніка пісаўся палякам, а як толькі засвяцілі зоркі палкоўніка, вырашыў не выпрабоўваць лёс і запісаўся беларусам.*
*(Свабода, н-р 7)*

Думаем, што гэта не апошняя нацыянальнасць господина генерала.

* * *

*Lawina nieszczęść spadła na reprezentantów Polski w sportach zimowych w Lillehammer. Zima była za chłodna, lód za miękki, na strzelnicy przeszkadzał cień. Jedynie saneczkarze zrobili duży postęp od poprzednich igrzysk w Albertville, gdzie przewrócili się w trakcie zawodów, w tym roku przejechali całą trasę.*
*(Polityka, nr 10)*

* * *

*Z dużym zainteresowaniem spotkała się historia cudownego nawrócenia byłego sekretarza wojewódzkiego PZPR w Białej Podlaskiej, dziś marszałka Sejmu Józefa Oleksego. Przed nawróceniem Oleksy był towarzyszem partii, która religię uważała jako opium dla ludu. Nic więc dziwnego, że swoim nawróceniem zapragnął podzielić się ze wszystkimi. W ciągu kilku minut setki towarzyszy Oleksego mogło go widzieć klęczącego przed cudownym obrazem w Częstochowie.*
*(Gazeta Współczesna, nr 45)*

Таварышы Алексага навярнуліся ўжо даўно. Яшчэ ў палове васьмідзесятых ксяндзы наракалі, што кругламордыя сакратары партыі займаюць першыя лаўкі ў касцёле і такім чынам седзячыя далей бабулькі не бачаць духоўніка. Алексы патрабаваў даўжэйшага ачуньвання.

* * *

*W Bielsku Podlaskim, gdzie połowa obywateli tego miasta to Białorusini, przy Domu Kultury istnieje dziesięć różnych zespołów, w tym dwa białoruskie... To jest dyskryminacja narodu polskiego* — заяўляюць бельскія райцы.
*(Przegląd Prawosławny, nr 3)*

Каб змяніць гэты „некарысны” палякам паказчык, дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук пачаў нават ствараць калектыў „польскай патрыятычнай песні”.

* * *

*Zaczął rysować się dziwny układ, w którym po jednej stronie znalazł się Zachód, po drugiej Serbia, Grecja, Rosja oraz cisi sojusznicy — Bułgaria, Rumunia. Wspomniany podział pozwala na sformowanie tezy o odżyciu sprzeczności między Europą łacińską a prawosławiem.*
*(Kurier Poranny, nr 44)*

Выглядае на тое, што некаторыя кварталы Беластока, Бельска ці Гайнаўкі неўзабаве будуць ужо ў Еўропе, а некаторыя ў „схізматычнай Азіі”. Побач нашай рэдакцыі пачынаецца ўжо „Еўропа”. 10 сакавіка мы першыя пераканаліся, як беластоцкая камтурыя пачала сваю місію ў напрамку „схізматычнай Азіі”.

* * *

*Podczas pobytu Jelcyna w Warszawie w sierpniu 1993 r. Polacy zobowiązali się nie wspierać dążeń krajów dawnego ZSRR do niezależności od Rosji.*
*(Gazeta Współczesna, nr 44)*

І слова стрымалі, а нават яшчэ больш...

* * *

*Irańska kobieta uznana przez trybunał islamski za winną zdrady małżeńskiej została ukamienowana. Według prawa islamskiego ukamienowanie przez tłum jest zwyczajną karą za zdradę. Przed przystąpieniem do egzekucji mężczyzn zakopuje się po pas, kobiety po pachy. Tradycja nakazuje darowanie życia skazanym, którym podczas kamienowania uda się samodzielnie wydobyć z ziemi.*
*(Rzeczpospolita, nr 53)*

Цікавая краіна гэты Іран.

* * *

*Nie lubię chamstwa. Poznam pana w wieku 30—38 lat, praktykującego katolika o dobrym sercu i z wyższym wykształceniem.*
*Mazur, lat 32. Jestem prawosławny (nie z własnej woli — red.), ale może napisać do mnie katoliczka* — з rubryki „We dwoje”
*(„Kurier Poranny, nr 45)*

* * *

*Większość Amerykanów na co dzień miesza Szwecję ze Szwajcarią i uważa, że stolica tej części świata nazywa się Kopenhaga.*
*(Polityka, nr 10)*

Ніколі грамадзяне імперыі не цікавіліся гісторыяй сваіх далёкіх правінцый. Заўсёды было наадварот. Напрыклад, жыхар Беластока больш ведае пра кварталы Чыкага, Нью-Йорка, чым Вроцлава ці Кашаліна.

* * *

*Nie chcę w to uwierzyć, że Ukraina może upaść, ale taka groźba istnieje — powiedział przewodniczący ukraińskiego parlamentu Iwan Pluszcz. Stan gospodarki Ukrainy bardziej przypomina okres wojny niż pokoju.*
*(Rzeczpospolita, nr 54)*

І зноў аб'ядноўцца сёстры Украіна і Расея. Беларусь ужо сядзіць за сямейным сталом. Шчаслівая будучыня перад намі!

* * *

*57-гадовы генерал Мечыслаў Грыб будзе цяпер падтрымліваць форму з дапамогай масажысткі. Калі толькі засяліўся ён у апартаменты Старшыні Вярхоўнага Савета адразу загадаў адкрыць масажны кабінет. Такі кабінет працаваў у будынку ЦК КПБ вельмі спраўна і закрыты быў толькі Станіславам Шушкевічам. Цяпер усё вяртаецца. Абслугоўваць Мечыслава Грыба будзе Ала Махнач. Яна працавала тут раней і рабіла масаж сакратарам ЦК КПБ Сакалову і Малафееву.*
*(Свабода, н-р 7)*

Авангард пралетарыяту мусіць адчуваць сябе як жыхары Алімпа. На штодзень пан Мечыслаў вырашае ж так важныя праблемы беларускага народа. Нічога таксама дзіўнага, што і граф Прушынскі хацеў бы таксама пакарыстацца масажам.

* * *

*Coraz mniej stosowne jest być człowiekiem nie posiadającym zasobów finansowych, jest to po prostu rodzaj towarzyskiego nietaktu.*
*(Polityka, nr 9)*

Гэта ж новыя этычныя нормы ў Польшчы.

* * *

*Forum ludzi Zdrowego Rozsądku, Konfederacja IV Rzeczpospolitej Korona Polska, Kongres Eskimosów Polskich to nazwy zarejestrowanych ostatnio partii politycznych.*
*(Gazeta Współczesna)*

Цікава, каго „эскімосы” вылучаць у прэзідэнцкіх выбарах, бо Zdrowego Rozsądku, пэўна, ужо не будзе.

# З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністр Вальдэмар Паўляк** нанёс рабочы візіт у Маскву, дзе сустрэўся з шэфам расейскага ўрада **Віктарам Чарнамырдзіным.** Падчас размовы на чатыры вокі, якая доўжылася адну гадзіну і дзесяць мінут (двойчы даўжэй чым планавалася) кіраўнікі ўрадаў абодвух дзяржаў ўстанавілі, што — да часу іх чарговай сустрэчы ў Варшаве ў маі г.г. — паасобныя міністры падрыхтуюць канкрэтныя прапановы па ўсіх галінах гаспадарчага супрацоўніцтва.

**Катрын Лялюмер** — генеральная сакратар Рады Еўропы, якая нядаўна пабывала ў Польшчы, сустрэлася з членамі польскай дэлегацыі ў Парламенцкую Асамблею Рады Еўропы. У час спаткання абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва Польшчы з Радай і магчымасць „пасрэдніцтва” нашай краіны ў кантактах Расеі і Украіны з гэтай еўрапейскай арганізацыяй. На думку палітычных каментатараў, члены дэлегацыі ад Саюза левых дэмакратаў і Уніі працы намерваюцца падтрымаць кандыдатуру спадарыні К. Лялюмер у перавыбарах генеральнага сакратара Рады Еўропы.

**Ян Марыя Ракіта** — былы міністр ва ўрадзе Ганны Сухоцкай — сустрэўся ў Беластоку з членамі і сімпатыкамі Дэмакратычнай уніі. У ходзе спаткання бараніў ён, між іншым, сваё рашэнне аб вяртанні Праваслаўнай царкве Супрасльскага манастыра. Экс-міністр нагадаў, што Ватыкан і асабіста **Ян Павел II** адобрылі такое вырашэнне справы, а польскі Епіскапат зняў свае прэтэнзіі на Супрасльскі комплекс (толькі беластоцкі біскуп не паслухаў свайго начальства), прапануючы, каб застаўся ён ва ўладанні казны. Падкрэсліў ён таксама, што толькі Праваслаўная царква прад'явіла канкрэтную канцэпцыю добраўпарадкавання аб'екта.

**Міністры замежных спраў** краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў сустрэліся ў Маскве, каб абмеркаваць праблему этнічных меншасцяў (галоўным чынам расейскай) у рэспубліках былога СССР і справу аховы „вонкавых” граніц СНД. „Не патрэбнае нам ніякае міжнароднае прызнанне, дастаткова нам рашэнняў нашых парламентаў і прэзідэнтаў, каб садружнасць жыла і набывала значэння на міжнароднай арэне”, — сказаў шэф расейскай дыпламатыі **Андрэй Козыраў**, адкрываючы пасяджэнне.

**Сейм** прыняў новае палажэнне аб выбарах у самаўрады. У гмінах з 15-цітысячным насельніцтвам выбаршчыкі будуць галасаваць за партыйныя спіскі, у меншых — непасрэдна за кандыдатаў.

**У Казімежы над Віслай** прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па падпісанню падручнікаў па гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчыпаспалітай. Над гэтай серыяй падручнікаў працуе творчы калектыў рэдактараў з Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Беларусь, якую прадстаўляў дэпутат Вярхоўнага Савета **Алег Трусаў**, падрыхтавала ўжо першы варыянт падручніка па гісторыі Беларусі. Цяпер трэба ўзгодніць ягоны змест з рэдактарамі з іншых краін — нашчадкаў Вялікага княства. Апошняя сустрэча рэдактарскага калектыву пройдзе летам г.г. Пасля кожны з падручнікаў будзе выдадзены ў чатырох дзяржавах на іх мовах, а таксама на расейскай і англійскай, а сфінансуе гэты праект Джорджтаўнскі універсітэт са ЗША.

**Польская нацыянальная меншасць** у Чэхіі ніколі не была так расчараваная чэшскай нацыянальнай палітыкай, як цяпер. Апошнія рашэнні ўрада паралізуюць дзейнасць меншасных арганізацый. Напрыклад, змяншэнне дзяржаўных датацый у найбольшай ступені кранула палякаў і немцаў. Цяпер у Чэхіі пражывае 61 тысяча палякаў.

**На аўтазаводзе „Белаз” у Жодзіне** будзе адкрыты зборачны цэх аўтафургонаў „Люблін 3352”. Падпісаная нядаўна дамова паміж „Белазам” і аўтазаводам у Любліне прадугледжвае ў будучым зборку 2 тысяч польскіх машын у год.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- Другі Усебеларускі кангрэс — успаміны ўдзельніка.
- Ганна Кандрацюк у Новым Беразове.
- Славамір Кулік пра турнір у Дубічах-Царкоўных.
- Лена Глагоўская пра культурнае жыццё гданьскіх беларусаў.

Спадарыні

**АДЗЕ ЧАЧУЗЕ**

сардэчнае спачуванне
з прычыны напаткаўшага
яе гора

**— смерці сястры**

выказвае
калектыў „Нівы”

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Пагроза інкарпарацыі

„Вярхоўны Савет і ўрад Беларусі робяць усё магчымае і неабходнае для хутчэйшага заключэння эканамічнага саюза з Расеяй і аб'яднання грашовых сістэм, — пра гэта заявіў у ходзе паездкі па беларускіх гарадах спікер парламента рэспублікі Мечыслаў Грыб. — Усе прамаруджванні з аб'яднаннем грашовых сістэм вельмі балюча б'юць па эканоміцы рэспублікі. Кожны дзень адтэрміноўкі з падпісаннем дакументаў выклікае непаразуменне ў людзей”. Аднак, як падкрэсліў старшыня ВС, патрабаванне аб аб'яднанні бюджэтаў дзвюх краін і практычнае скарачэнне Беларускага нацыянальнага банка, якое выстаўляюць расейскія эксперты, ставяць тады пад сумненне суверэнітэт беларускай дзяржавы. „Я бачу і іншыя шляхі вырашэнння дадзенай праблемы, — сказаў М. Грыб. — Верагодна да эканамічнага саюза трэба ісці паступова, паэтапна. Не адразу рашаць усё, а хоць бы для пачатку адмяніць таможныя бар'еры, зняць мытні на граніцы Расеі і Беларусі”.

## Зварот апазіцыі БНФ

Апазіцыя Беларускага народнага фронту „Адраджэнне” пры Вярхоўным Савеце выступіла са зваротам да кіраўнікоў дзяржаў, парламентаў і ўрадаў свету, Генеральнага Сакратара ААН і праваахоўных міжнародных арганізацый. „Сёння, як і ў мінулыя дзесяцігоддзі, — як гаворыцца ў заяве, — у Беларусі ля ўлады застаецца камуністычная наменклатура. Камуністычная большасць у Вярхоўным Савеце на працягу чатырох гадоў адвяргала прапановы дэмакратычных сілаў па рынкаваму рэфармаванню эканомікі, стварэнню дэмакратычнай дзяржавы, у якой былі б гарантаваны правы чалавека”. У прынятым дакуменце звяртаецца ўвага на праслед беларускімі ўладамі арганізатараў палітычнага страйку, пачатага 15 лютага, на трывожную сітуацыю, якая складаецца ў сродках масавай інфармацыі. На думку апазіцыі БНФ татальны кантроль дзяржавы над прэсай, які існуе сёння, не дазволіць ствараць умовы для свабоднага волевыяўлення насельніцтва падчас будучых выбараў. Беларусь з кожным днём аддаляецца ад прынцыпаў дэмакратыі, узнікае пагроза існаванню беларускай нацыі і дзяржавы, стварэнню дэмакратычнай і стабільнай Беларусі.

## Вернуты давер

Рабочым днём была першая нядзеля сакавіка для служачых рэспубліканскага канцэрна „Паліўгаз”. Яны вымушаны былі збіраць грошы з даўжнікоў для разліку з расейскімі газавікамі. Папрацавалі яны нядрэнна і толькі за 6 сакавіка ім удалося сабраць 10 млрд. рублёў, у дапаўненне да 31 млрд. атрыманых за ўвесь тыдзень. І хаця гэтая сума яўна далёкая ад аб'ёму доўгу, бо ён складае 500 млрд. рублёў, яна дазволіла вярнуць давер з боку расейскіх партнёраў. Ва ўсялякім выпадку Беларусь застаецца з газам і на кухнях, і з цяплом на кватэрах.

## Не толькі святкавалі

8 сакавіка на плошчы Незалежнасці ў Менску адбыўся мітынг актывістак жаночага руху, прымеркаваны да святкаванага якраз Міжнароднага жаночага дня. Удзельніцы мітынгу запатрабавалі і ад парламента, і ад урада прыняцця неадкладных захадаў, здольных павысіць жыццёвы ўзровень грамадства, умацававаць сістэму аховы мацярынства і дзяцінства, палепшыць дзяржаўную падтрымку сем'яў.

## „Не!” рускаму універсітэту

Віцебская гарадская арганізацыя Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі выступіла з заявай з нагоды ініцыятывы шэрагу прафесараў Педагагічнага інстытута імя Кірава аб стварэнні ў Віцебску рускага універсітэта. „Рэгіёну неабходны навуковы цэнтр, дзе побач з падрыхтоўкай маладых спецыялістаў развівалася б фундаментальная навука, — гаворыцца ў заяве. — Аднак не сённяшнім чыноўнікам ад адукацыі вызначаць ягоны статус і мову навучання. Гэта запалітызаваны, нацыянальна афарбаваны падыход да сур'ёзнай праблемы”.

## Вайскоўцы ў Гомелі

Кіраўніцтва і група сяброў аргкамітэта Патрыятычнага руху „Беларускае згуртаванне вайскоўцаў” наведала абласны цэнтр Гомель. Апрануты яны былі ў камуфляжную форму з шаўронамі БЗВ. Прадстаўнікі кіраўніцтва руху сустрэліся з актывістамі мясцовай арганізацыі БЗВ, а таксама ўдзельнічалі ў спатканні з грамадскасцю горада, падчас якой выказалі свой пункт гледжання на становішча ў рэспубліцы. Шэраг гамельчукоў падалі заявы на ўступленне ў згуртаванне.

## Расце мінімальная зарплата

**Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі** звярнулася ў Вярхоўны Савет і ўрад з прапановай устанавіць з 1 красавіка г.г. памер мінімальнай заработнай платы не ніжэй за 60 тысяч рублёў у месяц. Гэта матывуецца пастаянным ростам спажывецкіх цэн. Напрыклад, толькі за студзень спажывецкая карзінка сям'і з 4 чалавек падаражала на 44 %, а мінімальны спажывецкі бюджэт аднаго члена сям'і з 4 чалавек на канец I квартала складзе 240-250 тысяч рублёў.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

## (2)
## Прыродныя ўмовы

**Семяноўскае вадасховішча.**

Яно займае даліну верхняга цячэння ракі Нарвы, паміж вёскамі Бандары, Рыбакі, Бахуры, Цісоўска, Семяноўка, Баб'я-Гара і Новая Лука. Яго паверхня складае 3 250 гектараў і яно большае на адну тысячу гектараў ад возера Вігры! У ім 80 мільёнаў кубічных метраў вады. Гэта сёмае па плошчы гіганцкае вадасховішча ў нашай краіне, якое забяспечвае пітнай вадой Беласток і Лапы. Сярэдняя глыбіня самога вадасховішча 1,5—2 м, а найглыбейшыя месцы маюць і па 8 метраў. І яшчэ: даўжыня штучнага возера — 6,5 км і максімальная шырыня — 2 км.

З-за вадасховішча з паверхні зямлі знікла пяць вёсак: Боўтрыкі, Рудня, Гарбары, Лука і Буды. Многа сем'яў было вымушаных змяніць месца жыхарства. Хто падаўся ў бліжэйшыя гарады: Беласток, Гайнаўку і Бельск-Падляшскі, хто ў Міхалова (тут для іх пабудавалі трыццаць кватэр), а хто ў Бандары (135 кватэр). Апрача таго заснавалі адну вёску — Новую Луку.

Драматычныя перажыванні асабліва старэйшых тамашніх людзей апісаў у рэпартажы „Уцёкі", змешчаным у адным з „Беларускіх календароў" вядомы зараз рэпарцёр Міхал Боўтрык, ураджэнец колішняй вёскі Боўтрыкі.

Цяжка было пакідаць наседжаныя куткі. Але ж мусілі выехаць. З Боўтрыкаў выехалі Казберукі, Салаў'і, Бароўскія і Боўтрыкі. Гэтыя апошнія даўным даўно далі пачатак гэтай вёсцы. З усяго тамашняга даволі шырокага наваколля пакінулі свае сядзібы 990 чалавек. Яны пакінулі таксама свае 3 680 гектараў, на якіх гаравалі, нараджаліся, сумавалі, весяліліся. Аж да той пары, калі прыйшоў „патоп" і Нарва перамянілася ў вялікае возера.

Зараз на ўзбярэжжы вадасховішча ёсць гасцініца з 350 месцамі, клуб „Карыно", аб'екты для адпачынку, пазычальня байдарак, вадаплаўных ровараў і г.д. У клубе арганізоўваюць культурна-забаўляльныя мерапрыемствы. Сюды на возера прыязджае ўсё больш і больш аматараў рыбалкі. Не толькі ўлетку, але і на працягу ўсяго года. Летам і восенню масава прыязджаюць грыбнікі ў навакольныя лясы.

У Семяноўскім вадасховішчы чыстая вада. У наваколлі свежае паветра. Можна тут сустрэць невядомыя тут раней прыбярэжныя водныя расліны і ажно... 164 віды птушак! Зараз тут гняздуюцца перш за ўсё вадаплаўныя птушкі, між іншым, белавусыя ды белакрылыя і чорныя крачкі. Восенню налічваецца тут каля 200 тысяч дзікіх качак!

Да вадасховішча прыходзяць ласі, алені, сарны і дзікі. Паўднёвы бераг наведваюць зубры. Каля вадасховішча, у рачулках і равах пасяліліся бабры, еўрапейскія і амерыканскія норкі, выдры, куніцы, яноты і барсукі.

*

Для агульнай характарыстыкі тэрыторыі Міхалоўскай гміны маецца невялікая колькасць навуковых распрацовак, напрыклад, доктарская праца Лешка Носа з Міхалова, напісаная роўна дваццаць гадоў таму. У ёй перш за ўсё пра даследаванні ў геалагічных адносінах, якія закранаюць апошнія, чацвярцічныя адклады ды трацічнага перыяду.

Геолагі сцвярджаюць, што на фармаванне сучаснага рэльефу самае вялікае ўздзеянне аказалі два апошнія абледзяненні і праца вады з таючых леднікоў. Чытаючы доктарскую працу Лешка Носа можна пазнаёміцца з тым, як выглядае рэльеф без адкладаў чацвярцічнага перыяду, без гэтага наймалодшага комплексу парод (паглядзіце на геалагічную карту). Аказваецца, што на частцы тэрыторыі Міхалоўскай гміны залягае пішучая крэйда, але яна прыкрыта глаўканітавымі пяскамі, цёмназялёнымі глінамі і марэнай (пласт таўшчынёй у 100—160 метраў).

Міхалоўская гміна ўваходзіць у склад тэрыторыі, на якой рэдка сустракаюцца радовішчы карысных выкапняў. Зямныя нетры гміны вывучаны слаба і немагчыма рабіць канчатковыя вывады аб іх багацці. На аснове некалькіх буравых шчылін глыбінёй да 100 метраў цяжка адказаць на пытанне, што знаходзіцца пад бітумінознымі глінамі: бурыя вуглі а мо лінзы солі?

Значна лепш, хоць таксама няпоўна, вядомы ў гміне мінеральныя і арганічныя выкапні, залягаючыя на паверхні зямлі. У многіх месцах знойдзены жалезныя руды асадачнага паходжання. Залягаюць яны ў форме пластоў 15—20-сантыметровай таўшчыні ў далінах рэк. Напрыклад, балотныя руды знойдзены на глыбіні 1—1,5 м па даліне ракі Нарвы і рачулкі Луплянкі. Апрача невялікіх паверхневых, сустракаюцца яшчэ крыху таўсцейшыя пласты. У 1942 годзе, маючы неабмежаваную колькасць „бясплатнай" рабочай сілы і вялікія патрэбы ў жалезе, нямецкія акупанты правялі невялікія даследаванні і пачалі эксплуатаваць такія балотныя руды каля колішніх вёсак Рудня (Міхалоўская гміна) і суседняй вёскі Лука (Нараўчанская гміна) ды вазамі вывозіць руду да чыгункі ў Семяноўцы. Вынікі быццам бы былі задавальняючыя.

Важным мінеральным багаццем Міхалоўскай гміны з'яўляюцца гліны, напрыклад, у Лясанцы каля Міхалова. Тут працуе цагельны завод. З іншых мінеральных выкапняў неабходна адзначыць жвіры, між іншым, у лесе побач шашы з Міхалова ў Жэдню і каля вёсак Юшкаў Груд ды Юльянка, а таксама пяскі. Звычайна жоўтыя, шэрыя ці белыя сартаваныя пяскі сустракаюцца амаль усюды і выкарыстоўваюцца насельніцтвам як дапаможны матэрыял пры пабудове дарог ды цэментабетонных работах.

Каштоўным багаццем Міхалоўскай гміны з'яўляецца торф. Радовішча „Імшар" (назва абазначае мохавае балота) знаходзіцца каля Ляўшоў, Кухмоў і Юльянкі ў шасці-сямі кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Міхалова. Гэтая багна была даступная калісьці чалавеку толькі ў надта сухое лета і вострую зіму. Прыбярэжная твань магла засмактаць чалавека з галавой. Улетку на багне кусціліся непраходныя зараслі лахінніку, усыпанага, што лісця не відаць, сінімі ягадамі велічынёй слівы. Пудовы кош жанчыны з навакольных вёсак набіралі за якую гадзіну-дзве. Разам з кашамі ягадаў прыходзілі ў хаты бясконцыя жахлівыя апавяданні — пісаў у „Беларускім календары на 1981 год" рэд. Мікалай Гайдук — пра паласатых, пярэстых, а то і з рожкамі на галаве, тоўстых, бы рука людская, і доўгіх на сажань вужаках, што з шыпеннем слізгаліся каля босых ног і нават у кошыкі заглядалі. Ці то ад дурманячага паху багунніку, ці то для перасцярогі малалеткам, каб часам не ўздумалася ім паблукаць на багне, аб Імшары, як гняздовішчы гадаўя ды нячыстай сілы гаварылася ў колішнія часы вельмі часта. Толькі на зазімках, калі маразы нагола закуюць балота, часамі звінела над Імшаром звонкая дзявочая песня. Тады дзяўчаты і маладзіцы бралі сакавітую, вялікую, бы боб, пасалоджаную марозам журавіну (назва „журавіна" звязана з жураўлём: у перыяд распускання цветаножка і вяночак ягады вельмі нагадваюць форму гэтай птушкі). Але неўзабаве наляталі снежныя завірухі, і багна глухла.

Аднак найважнейшыя тут багатыя залежы незвычайнага торфу, у якім знаходзіліся таксама пласты каштоўнай лекавай баравіны.

*(працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# СЯЛЯНСКАЯ ДОЛЯ

Кожная ўлада, колькі помню, лічыла селяніна чалавекам другога сорту, таму і селянін, не без падстаў, наракаў на кожную ўладу.

Помню, пры Беруце пачалі арганізаваць у нас калгасы. Паўстаў такі калгас і ў Дубічах-Царкоўных восенню 1952 года. Запісалася каля 15 сем'яў, амаль палова з якіх адразу з яго ўцякла і ніякія пагрозы не прымусілі іх вярнуцца. У калгасе засталося ўсяго 7 сем'яў. Цяжка было тады жыць і калгаснікам і некалгаснікам, хаця ў калгасе было весялей, бо амаль штодзённа сварыліся паміж сабою, а, бывала, што і біліся. А вынікала гэта з „дабрабыту", які трапна характарызаваў вершык: „У калгасе добра жыць: адзін працуе, сем ляжыць". „Адзінапічнікі" (так называлі тых, якія не пайшлі ў калгас) таксама не мелі лёгкага жыцця. Хто меў больш зямлі, мусіў дзесьці дарабляць, каб аплаціць падаткі (некаторыя мае аднавяскоўцы працавалі на чыгунцы аж у Варшаве), бо за сельскагаспадарчыя прадукты ў рамках абавязковых нарыхтовак дзяржава плаціла мала. Крыху можна было зарабіць, калі жыта або авёс прадалося на рынку ў Гайнаўцы або Кляшчэлях. Жывёлы сяляне трымалі мала: найчасцей каня, дзве каровы ды некалькі свінак і авечак.

Гамулка восенню 1956 года развязаў калгасы і вярнуў сялянам іхнюю зямлю, хаця абавязковыя нарыхтоўкі засталіся. Жыць стала крыху лягчэй. Збожжа было таннае, затое мяса было даражэйшае. Помню, як мае бацькі прадалі ў ГС у Орлю вялікага вепрука, за якога ўзялі 4000 злотых. На той час былі гэта вялікія грошы: за іх купілі шыфер на цэлую хату, якую паставілі ў 1960 годзе. На месца „жалезнякоў" уваходзілі „гумовыя" вазы, г. зв. „балоны", паявіліся матацыклы.

Герак адмяніў абавязковыя нарыхтоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў. Ён хацеў, каб Польшча стала перадавой краінай у Еўропе і часткова гэта яму ўдалося. І хто не быў лодарам, меў пры Герку магчымасць зажыць. Цэны на мінеральныя ўгнаенні і на сельскагаспадарчыя прадукты былі для сялян карыснымі. На вёсках выраслі не толькі асабнякі, але і святліцы, пажарныя дэпо, школы, асяродкі здароўя і крамы. Пры такой „камуне" можна было жыць! Цяпер гэта ўсё развальваецца. Маем свабоду, можам пісаць што хочам, усё ў крамах ёсць — абы грошы. А з грашамі цяжка — цэны змяніліся не ў карысць селяніну. Каб не пенсіі і малако — цяжка было б. Збожжа і мяса таннейшае чым калісь ды няма ахвотных, каб іх купляць, нават дзяржава да гэтага не вельмі квапіцца.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ГРАМАДСКАЯ ДАПАМОГА Ў БЕЛЬСКУ

Паводле даных на дзень 31 снежня 1991 года, у Бельску-Падляшскім пражывала 27 222 жыхары, а ў канцы 1992 года — 26 605, што сведчыць пра першае ад заканчэння II сусветнай вайны паніжэнне прыросту насельніцтва горада. Банкруцтвы некалькіх значных прадпрыемстваў, скарачэнні працоўных калектываў на прадпрыемствах, беспрацоўе ды дрэнная эканамічная сітуацыя многіх сем'яў, відаць, прымусілі некаторых вяртацца ў вёскі. Як мне сказалі ў мясцовым аддзяленні Ваяводскага статыстычнага ведамства (WUS), такая тэндэнцыя ў 1993 годзе паглыбілася, але... да першых дзён сакавіка гэтага года яшчэ не палічылі, колькі было насельніцтва ў Бельску ў канцы мінулага года (чым жа тады займаецца статыстычнае ведамства?).

У 1992 годзе ў працаздольным узросце было 15 188 чалавек, а ў пенсійным — 2 587 чалавек. Прыблізна 40% пастаянных жыхароў не дасягнула 20 года жыцця. Да канца мінулага года ў Раённым бюро працы зарэгістраваны 2 441 беспрацоўны, але толькі 1 173 асобы атрымлівалі дапамогу.

Ацэначны лік сем'яў з 1 да 3 дзяцей — гэта 2 466, а з 4 і больш дзяцьмі — 412. Лік няпоўных сем'яў разам — 2 281. Колькасць сем'яў пенсіянераў і рэнцістаў — 4 290, у тым ліку аднаасабовых — 411. Інвалідаў у Бельску — 2 281, у тым ліку дзяцей — 34. Пакуль што, столькі бельскай статыстыкі.

У перыяд радыкальнай перабудовы грамадска-гаспадарчага ладу краіны і паступаючых разам з гэтым таксама і адмоўных з'яў, як, напрыклад, эканамічная дэградацыя пэўных груп у грамадстве, важнай з'явай становіцца інстытут грамадскай сацыяльнай дапамогі. На публічнай адміністрацыі спачывае абавязак апекі над асобамі патрабуючымі дапамогі. Абавязак гэты перш за ўсё вынікае з натуральнага чалавечага права. Мэтай грамадскай дапамогі з'яўляецца забеспячэнне неабходных жыццёвых патрэб адзінак і сем'яў, а таксама імкненне зрабіць зносным бытаванне ва ўмовах годных чалавека. Сацыяльная дапамога для асобы і сем'яў павінна давесці да жыццёвай самастойнасці, а таксама да іх інтэграцыі з мясцовым асяроддзем.

Вопыт Гарадскога асяродка грамадскай дапамогі ў Бельску паказвае на тое, што за дапамогай часта вельмі назойліва звяртаюцца адзінкі, якія з увагі на сваё выгодніцтва ды ляноту, шляхам хітрасцяў, намагаюцца выдурыць неналежныя ім асігнаванні. Ёсць аднак і такія людзі, якія хаця і знаходзяцца ў крытычнай матэрыяльнай сітуацыі, з-за гонару, фальшывага сораму ды хвараблівай нясмеласці не хадайнічаюць за належнай ім дапамогай. З усяго гэтага вынікае неабходнасць поўнай арыентацыі ў грамадскім асяроддзі, патрэба збірання інфармацый, абавязак кантакту з патрабуючымі дапамогі.

Права на грашовую падтрымку прыслугоўвае асобам, якія не маюць ніякіх крыніц утрымання або калі даход на аднаго чалавека ў сям'і не перавышае найніжэйшай у краіне пенсіі. Фінансава дапамагаецца асобам і сем'ям асабліва па прычынах беднасці, сіроцтва, бяздомнасці, патрэбы аховы мацярынства, беспрацоўя, фізічнай або разумовай недаразвітасці, доўгай хваробы, бяздарнасці ў апякунска-выхаваўчых абавязках ды вядзенні хатняга гаспадарства, асабліва ў няпоўных ці мнагадзетных сем'ях, алкагалізму і наркаманіі, цяжкасцяў з жыццёвай адаптацыяй пасля выхаду з турмы, стыхійнага або экалагічнага няшчасця.

У 1993 годзе бюджэт Гарадскога асяродка грамадскай дапамогі ў Бельску-Падляшскім склаў агульную суму 3 мільярдаў 605 мільёнаў злотых, у тым ліку падрадныя заданні цэнтральнага фонду — 2 мільярды 105 мільёнаў злотых і ўласныя заданні гарадской гміны — 1 мільярд 500 мільёнаў злотых.

☞ *Працяг на стар. 10*

# ГАНДЛЁВАЯ ГАЙНАЎКА

Апошнім часам у Гайнаўцы шмат змянілася.

Пры вуліцы Мар'яна Бучка многа прыватных крамак. Іхнія ўласнікі часта мяняюцца, так як і выбар тавараў. У краме, дзе раней прадаваліся сціральныя парашкі, адзенне і іншыя тавары зараз знаходзіцца калектарскі фатаграфічны пункт „Кодака", а там, дзе прадаваліся матэрыялы для шыцця і гатовая вопратка, вядзецца скупка і продаж золата, прамысловых прадуктаў. У краме, дзе прадавалі падручнікі, можам купіць сабе боты да выбару.

Пры вул. Стэфана Баторыя, там, дзе калісьці вы маглі пашыць сабе куртку, цяпер рамонт. А ў будынак, дзе раней было кравецкае прадпрыемства, перанеслі з вуліцы Бучка вядомую здаўна ўсім краму „Сялянскі гандлёвы дом".

Рынак (званы цяпер „старым") далей існуе, але прадаўцоў там мала. На рынку пры вул. 3 Мая ў г.зв. галі (тарговыя рады) валюту можаце памяняць не толькі ў канторы абмену, але і ў мужчын, якія стаяць каля яго.

Прадаўцоў замежных заўважальна менш. Затое пабольшала колькасць прыватных „будак" і аўтамашын, з якіх прадаюцца прамысловыя і спажывецкія тавары.

**АЎРОРА**



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# УСПАМІНЫ „ПРАВАКАТАРА"

Той, хто раніцай 11 сакавіка ўключыў радыёпрыёмнік, па беластоцкай праграме, мог пачуць выказванні лідэраў беластоцкай „Салідарнасці", што журналісты „Нівы" напалі на памяшканне гэтага прафсаюза, прывялі іх да руіны, абліваючы таксама чырвонай фарбай актывістаў, якія папярэдняга дня рыхтаваліся да дэманстрацыі. Лідэр беластоцкіх салідарнікаў Мазалеўскі заявіў, што была гэта запланаваная палітычная правакацыя, што такія правакацыі вельмі часта мелі месца пасля 19 верасня мінулага года. З увагі на тое, што беластоцкая „Салідарнасць" адчувае пагрозу з боку журналістаў „Нівы", — прадаўжаў Мазалеўскі, — будзе яна дамагацца „эксмісіі" рэдакцыі з будынка пры вуліцы Сураскай 1. Год раней бельскія райцы, выбраныя са спіска салідарніцкага камітэта, абвінавацілі дырэктара Школы н-р 3 Васіля Ляшчынскага і дырэктара Бельскага дома культуры Сяргея Лукашука ў палякаедстве. У такой сітуацыі выказванні беластоцкіх салідарнікаў не былі б нічым асаблівым, калі б не пастулат „эксмісіі". „Ніва" займае тры пакойчыкі побач памяшканняў Управы рэгіёна „Салідарнасці", плаціць арэндную плату велічынёй у 60 тысяч зл. за квадратны метр і на дадатак 45% ад агульнай сумы за карыстанне з калідораў і туалетаў. Нашы суседзі плацяць толькі 30 тысяч за квадратны метр і маюць гарантыю ў выглядзе дамовы, што гэта плата не будзе павышана. Рэдакцыя „Нівы" не з уласнай волі апынулася побач новай „вядучай сілы народа" і ад пачатку — мы гэта разумелі — была ім „kością w gardle", „skazą na honorze".

Што тады здарылася 10 сакавіка? Што дало падставы да антыбеларускай істэрыі лідэраў прафсаюза на хвалях Беластоцкага радыё, у прэсе і падчас дэманстрацыі 11 сакавіка? Пасля 6-цімесячнай пабыўкі ў Амерыцы вярнуўся на Беласточчыну наш супрацоўнік Мікола Ваўранюк. Вядома, прыйшоў прывітацца з калектывам „Нівы". Коля запрасіў пасля працы на каву, апрача нашых супрацоўнікаў, журналістаў „Czasopisa" і Сакрата Яновіча. У гэтым часе круціўся па III паверху і Ян Мордань са сваім „Балаганам" і іншыя людзі, якія наведвалі рэдакцыю. На калідоры ў той час актывісты „Салідарнасці" рыхтавалі транспаранты. Займалі яны амаль цэлую плошчу калідора і толькі ідучы каля сцэны можна было неяк прабіцца, не кранаючы салідарнікаў. Гэты рух у рэдакцыі пэўна ўжо стаў ім падазроным, а колькасць мінаючых людзей моцна іх нервавала.

Коля апрача кавы пачаставаў яшчэ і чаркай. Найгоршае, што ён сам выпіў таксама пару чарак. Кантакт з польскім алкаголем пасля доўгага перапынку выклікае, як вядома, поўны параліч мазгоў і цэлага арганізма. Большасць удзельнікаў сустрэчы абмежавалася толькі да безалькагольных напіткаў. Тым не менш гутарка была вельмі цікавая. Каля сёмай гадзіны вечара амаль усе ўжо разышліся. У рэдакцыі асталіся я, бо меў закончыць працу, якую не змог зрабіць раней з прычыны ўспомненага балагану, Мікола Ваўранюк, Віталь Луба і Аляксандр Вярбіцкі, які набіраў на камп'ютэры чарговы нумар „Нівы". Коля адчуў сябе дрэнна і выйшаў у туалет. Праходзіўшы каля працуючых актывістаў, патаптаў ім палатно. На калідоры падняўся нейкі рэйвах, а Коля, вярнуўшыся, расказаў, што няхоцячы наступіў на транспарант. Выйшаў я тады і перапрасіў працуючых. Коля збіраўся на аўтобус і, каб не паўтарыўся нейкі скандал з раздражненымі — як выразна было відаць — людзьмі, я вырашыў правесці яго найгоршы адрэзак дарогі. На калідоры паміж сцэнай а транспарантамі было ўсяго 20-30 см месца. Коля, хаця і стараўся ісці каля сцэны, у пэўны момант не стрымаў раўнавагі і двойчы наступіў на транспарант. Актывіст, які маляваў на ім нейкія літары, схапіў слоік з фарбай і хлюснуў ёю на плечы Колі, пры нагодзе абліваючы і мяне, стоячых побач іншых салідарнікаў, транспарант і сцэну. Так больш-менш выглядаў „сарганізаваны напад журналістаў „Нівы" на сядзібу Управы беластоцкага рэгіёна „Салідарнасці".

Пару хвілін пасля з закамаркаў выпаўзлі нейкія каля стокілаграмныя цёткі. Адна крычала: „To jest polityczna prowokacja, trzeba powiadomić natychmiast przewodniczącego Mariana i policję!", другая: „Wynoście się z tego budynku!". Нейкі актывіст піхануў Колю на сходы, пасля схапіў яго за чырвоную ад фарбы вопратку, пабрудзіўшы такім чынам свае штаны, якія пасля паказваў паліцыі, як вынік „тэрарыстычнай атакі беларусаў". Спытаў тады я аднаго з працаўнікоў Управы рэгіёна: „Dlaczego panowie to zrobiliście, co chcecie osiągnąć?". Стаячая побач „цётка рэвалюцыі" крычала: „Zamknij się", але той спакойна адказаў: „My do pana nic nie mamy, to ten wasz gość jest wszystkiemu winien". „To przecież pan, — кажу я, — wylał mu farbę na plecy i mnie przy okazji, a nie on wam". А ён на гэта: „Wy tak jesteście pijani, że nawet nie wiecie, kto tę farbę wylał, na pewno nie ja". Сапраўды, гэтага не зрабіў ён, хлюснулі фарбай ззаду, а апрача яго стаяў тады за нашымі плячамі яшчэ адзін кругламорды актывіст, які зараз пасля абвясціў — рэвалюцыйным парадкам — што туалет поўнасцю належыць „Салідарнасці" і беларусам нельга ім карыстацца. Тлумачыў я яму, што мы плацім арэндную плату таксама і за туалет, але рэвалюцыянеры, як вядома, кіруюцца іншай логікай. Пару хвілін пасля была ўжо паліцыя, журналісты з Беластоцкага радыё, відэакамера. Лідэры „Салідарнасці" тлумачылі: „Jakiś facet z „Niwy" cały wieczór zachowywał się prowokacyjnie, wychodząc kopnął słoik z farbą, ochlapując przy tym działaczy „Solidarności" i transparent przygotowywany na jutrzejszą demonstrację". Паліцыя працавала каля трох гадзін. На другі дзень у эфіры Беластоцкага радыё інфармацыя пра „беларускіх правакатараў" паўтаралася амаль кожную гадзіну. 11 сакавіка каля абеду пачалася дэманстрацыя „Салідарнасці". Пан „пжэводнічонцы" Мазалеўскі тлумачыў сабраўшымся, што 19 верасня выбары выйграла камуна і Цімашэвіч, і таму дашукаўся ён сувязі з падзеямі папярэдняга дня на калідоры трэцяга паверха будынка пры вуліцы Сураскай 1. Вядома, беларусы — усе камуністы і, каб не дапусціць да дэманстрацыі „Салідарна-сці", журналісты „Нівы" напалі на актывістаў, знішчылі транспаранты, доказам чаго было вывешанае палатно, напырсканае чырвонай фарбай. Быў гэта довад варожай дзейнасці камуністычнай ячэйкі ў рэдакцыі „Нівы". Да поўнага вобразу пакутаў „Салідарнасці" не хапала толькі песні „Krew naszą leją białoruskie katy". „Nie pozwolimy, aby rządziła komuna, nie pozwolimy aby niszczono ideały „Solidarności" i nasze transparenty, — крычаў пан „пжэводнічонцы" Мазалеўскі. Дэманстранты, грозна патрасаючы кулакамі, адказвалі „Precz z komuną". Гэтым разам натоўп яшчэ не рушыў на рэдакцыю. Але хто ведае, як яно будзе далей?

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

P. S. Пастулат „эксмісіі" „Нівы" быў складзены дэманстрантамі на рукі прэзідэнта горада Беластока Леха Рудкоўскага.

Правакацыя салідарнікаў на гэтым не канчаецца. У наступным нумары „Нівы" прадставім, што дзеялася далей.

# ЦІ МЫ НЕ СТРАЦІЛІ ГЭТЫХ ЧАТЫРОХ ГАДОЎ?

Я не быў бы такім аптымістам, як спадар Уладзімір Пац у артыкуле, змешчаным у 5 н-ры „Нівы" ад 30 студзеня г.г. Не згаджаюся таксама з тым, што „на грунце разлікаў з мінулым ва ўсёй дзяржаве, таксама і мы забраліся за парадкаванне свайго панадворка". Сапраўды, гэта не было парадкаванне, а разбой па вялікаму маштабу і на вельмі нізкім узроўні. Зразумела, што беларусы на Беласточчыне не жывуць у энклаве. Як усе грамадзяне, і мы, беларусы, маем розныя погляды і арыентацыі. Не маем сваёй „дзяржавы", а Беларускае грамадска-культурнае таварыства гэта не партыя. Працавала калісь, наколькі на гэта дазваляла Міністэрства ўнутраных спраў. Зразумела, што маглі быць памылкі, але ўсё ж такі на базе БГКТ апіралася ўся наша культурная і асветніцкая праца. І большасць цяперашніх дзеячоў усіх беларускіх груповак калісьці сутыкнуліся з дзейнасцю Таварыства. На жаль, некаторыя саромеюцца, а некаторыя зрабілі сябе пакутнікамі, ветэранамі. Дзякуючы Таварыству, беларускі асветніцкі і культурны рух пертрымаў гады і мае свае дасягненні. У 1989 годзе, а ў акадэмічным асяроддзі яшчэ раней, пачаліся перамены, да якіх нашыя інтэлектуальныя эліты не былі падрыхтаваныя. На прыкладзе нашых братоў-палякаў пачаўся разнабой. У эфіры і на старонках нашых газет, а асабліва на старонках „Нівы" нашыя эліты, лідэры ўсчалі нікому непатрэбныя абвінавачанні і палемікі. Словам, пачалі аплёўвацца, хто каго больш, і няважна, за што, і хто ў чым вінаўны. Слухачы і чытачы ажно не маглі паверыць, што сярод нас жывуць такія „злачынцы", „здраднікі беларускай справы" і да таго падобныя. Вынікі гэтых сварак мы ведаем і няма чаго вяртацца да таго часу. Ведаем, што раздробленае і адурманенае наша асяроддзе ў чарговых выбарах аддавала свае галасы на сацыял-дэмакратаў. Людзі аддалі свае галасы на спісак, якога праграма не кранала спраў нацыянальных меншасцяў. Нашыя палітычныя эліты, замест зрабіць высновы, пачалі лаяць В. Цімашэвіча і ягоных аднадумцаў з „лявіцы" за тое, што „падбіраюць" нам выбаршчыкаў. А трэба нам усім ведаць, што мы сваю арыентацыю накіроўваць будзем туды, дзе нас ніхто не лае, не ўлічае нас да ніжэйшай катэгорыі. Ну, і восень 1993 года. „Nareszcie prawosławni razem!". Стала неяк лягчэй на душы. Але, аднак, аказалася, што няма ў нас дзеячоў, якія маглі б пераканаць выбаршчыкаў да сваёй праграмы, да нашых шанцаў. Некаторыя з кандыдатаў былі глыбока пераканаяны аб сваёй пазіцыі ў беларускім руху і прыйшлі да выбарчай кампаніі „ў белых пальчатках", а іншыя былі нават моцна пераканаяны ў сваёй перамозе. Ну і найбольшы грэх нашых кандыдатаў: вельмі мала спатканняў з выбаршчыкамі, слабая іх падрыхтоўка, мала інфармацыі па радыё, тэлебачанні. І атрымалася так: „każdy sobie rzepkę skrobie". Замоцна ўсе хацелі бачыць сябе нашым рэпрэзентантам у Сейме? Толькі назоў нашага камітэта гаварыў пра нашу еднасць. Ну, што ж, спадар Пац, бачыце — пералічыліся і зноў навучыліся.

Што нам цяпер рабіць? На маю думку, трэба размаўляць адзін з адным. Толькі разумны дыялог усіх груповак можа прынесці нам карысць. Так, як і ўсё наша асяроддзе, таксама і сябры нашых арганізацый маюць свае погляды на рэчаіснасць. Сярод нас ёсць кансерватары і лібералы, сацыялісты і цэнтрысты, рэфарматары і іншыя. Гэта іх права. Усім нам, усім арганізацыям ёсць месца на сваю дзялянку, сваю дзейнасць, і кожная з іх не менш важная за іншыя. Выбаршчыкам трэба падказваць, а ісці ў кааліцыю з тымі, хто будзе з намі лічыцца. А, можа, трэба сказаць так: кожную партыю, такую арганізацыю будзем падтрымоўваць, якая нам дасць гарантыю працы, нядрэннага жыцця, асабістага гонару, развіцця асветы і культуры. Не будзем садзейнічаць шавінізму, нацыяналізму, разбоям, клерыкалізму. Так будзе і ў найбліжэйшай выбарчай кампаніі ў самаўрады.

Восенню 1992 года па Польскім радыё пачуў я перадачу Уладзіміра Паца, у якой ён крытычна адносіўся да БГКТ, а нават сказаў, што гэта ўжо непатрэбная арганізацыя. Жыццё даказала, што ўсе нашыя арганізацыі патрэбныя, для ўсіх хопіць месца ў нашым жыцці. З розумам і разважлівасцю трэба нам падыходзіць да кожнай праблемы. Персанальныя амбіцыі некаторых дзеячоў трэба адкласці на паліцу гісторыі. Хаця няма ўжо колішніх лідэраў, пералічаных перадачы У. Пацам, што былі на вярхушках сваіх груповак, то іхні дух лунае ў нашай свядомасці, і трэба пакаленняў, каб яго пазбыцца. А, можа, гэта нават і непатрэбна? Найлепш — для сённяшняга жыцця выбраць усё тое, што было добрым, адкінуць усё, чаго не адобрыла наша асяроддзе. Тады, думаю, выбаршчыкі будуць аддаваць свае галасы на нашых кандыдатаў у Сейм, Сенат і самаўрады, нашых будуць назначаць на высокія адказныя пасады ў ваяводстве, міністэрствах і ўрадах. І тады я за спадаром Пацам скажу, што не старцілі мы тых гадоў. І вось гэтага сабе і нам усім жадаю.

**МІХАЛ ГОЛУБ,**
**Гайнаўка**




## ПАВЕЯЛА НАЦЫЯНАЛІЗМАМ

„Маўляў, з дзялення грошай пачынаецца дзяленне дзяржавы", — гаворыць міністр Ягела („Ніва" ад 7. 03. 1994 г.). Калі не хапае аргументаў, паяўляецца дэмагогія. Ну і як бараніцца перад такім закідам! Але і без дзяльбы грошай насельніцтва Беласточчыны і так падзелена: усе фінансы ідуць на культуру большасці, а на беларускую — кропля. Ці ж беларусы не з'яўляюцца грамадзянамі Рэчыпаспалітай?

Дзіўна, што дэмакратычная дзяржава не можа выпрацаваць пастаянную палітыку ў адносінах да меншасцяў. І хаця тых меншасцяў у краіне жменька, дык праблемаў узнікае даволі многа. Улады розных узроўняў не бачаць, што падтрымка меншасцяў — гэта чысты дзяржаўны інтарэс.

**МІХАСЬ МАХНАЦКІ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ШТО НАМ РАБІЦЬ З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ?

Прыгожым прыкладам патрыятызму з'яўляюцца ўрокі праваслаўнай рэлігіі ў Рыбалах. Навучае яе айцец Рыгор Сасна і мясцовы псаломшчык Славамір Аўксецяюк. Уводзяць яны на ўрокі мясцовую гаворку, каб паясняць тэмы. Паводле айца Рыгора Сасны, наш народ патрабуе шмат старанняў і працы, каб прысвоіць нашу літаратурную мову. Да гэтага мы не даспелі. Айцец Рыгор Сасна лічыць, што ў нашых беларускіх вёсках усе павінны вучыцца літаратурнай мове. На жаль, якасць нашай інтэлігенцыі ўскладняе гэтую нармальную чалавечую патрэбу.

У Рыбалах 134 вучні. Вучацца тут дзеткі з Целушок (6), Давідавіч (8), Паўлаў (24), Канюк (4), Рыбалаў (23) і „Камбіната” (67 з Птушкафермы ў Рыбалах). Школа пакуль што куратарыйная.

— Ляжаць неаплачаныя рахункі за вугаль і электраэнергію. Будынак патрабуе рамонту. Улады Заблудаўскай гміны абяцалі памяняць электраўстаноўку і санітарныя абсталяванні. Дагэтуль памянялі верхнія дошкі сталоў і паркеты. Гміна арганізуе давоз дзяцей з адлеглых мясцовасцей, — кажа дырэктар Яўгенія Грыб.

Чатыры гады таму ў Рыбалах здарылася серыя пакражаў.

— Усё, што было можна ўжо ўкралі. Забралі нам пячаткі і бланкі пасведчанняў. Нават фіранку знялі з акна, — прызнаюцца настаўнікі.

У Рыбалах вельмі трагічная сітуацыя з беларускай мовай у школе.

— Не ведаю што рабіць, — кажа дырэктар.




*Другакласнікі са сваёй настаўніцай.*

У школе на 134 вучні толькі 27 вывучае гэты прадмет. Рэлігійныя прапорцыі якраз адваротныя. У школе 78% праваслаўных і толькі 22% католікаў. Тыя апошнія — гэта дзеці прыезджых палякаў, якія знайшлі працу і прыют у птушкагадоўчым камбінаце. Матывацыя вядомая: „Не хочуць бацькі”, „Няма практычнага прымянення” і г.д. На сустрэчы з бацькамі прыязджалі прадстаўнікі БГКТ — Янка Сычэўскі, Валянціна Ласкевіч і Тамара Русачык. Усё ж такі дзеткі не вучацца. Паводле спадарыні Яўгеніі Грыб, усе вучні павінны вывучаць гэтую мову як абавязковы прадмет.

— Толькі абавязак навучання можа нас выратаваць, — сцвярджае дырэктар.

На жаль, не адводзіцца ўвага кваліфікацыям настаўніка гэтага „найбольш далікатнага” прадмета. У апошнія гады ў Рыбалах беларускай мове навучае настаўнік па тэхнікуме, „які ведае беларускую мову з пачатковай школы”. У гэтай справе было ўмяшанне з боку беластоцкай куратары. Візітатар Генрык Камінскі прапанаваў замену настаўніка. На жаль, не заўважылі гэтага нашыя дзеячы, якія так масава наведвалі школу!

— У будучым годзе ўрокі беларускай мовы павядзе настаўніца па беларускім ліцэі (амаль усе выпускнікі т.зв. беларускіх ліцэяў не ведаюць нават добра літаратурнай мовы), бо прыняць на працу спецыяліста няма штату. У школе працуе 10 настаўнікаў. Большасць з іх даязджаюць з Бельска.

Давялося мне таксама пагутарыць з найбольшым (6 дзетак) — II класам. Тыдзень навучае іх настаўніца (па біялагічна-фізкультурным факультэце) спадарыня Мартынюк. Новая настаўніца яшчэ не магла падзяліцца сваімі праблемамі і радасцямі. Але другакласнікі: Кася Алексяюк, Агнешка Максімюк, Марыя Паўлючук, Яраслаў Каральчук і Агнешка Кандрацюк хацелі б і далей вучыцца беларускай мове. Для цікавасці варта зазначыць, што ў 7 класе толькі адна дзяўчынка вывучае гэты прадмет. У III класе на 20 вучняў толькі 2 выпрашылі вучыцца роднай мове. А шкада, бо вучні тут таленавітыя. Усе ідуць вучыцца далей. У мінулым годзе з ліку 14 выпускнікоў 11 паступілі ў ліцэі і тэхнікумы.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

P.S. З уласнага вопыту ўсе бацькі і вучні павінны ведаць, што ў нашай рэчаіснасці нават па пачатковай школе можна стаць настаўнікам. І навошта паўтараць, што „мова гэтая непрактычная”?



*Настаяцель Рыбалаўскага прыхода а. Рыгор Сасна.*

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## VII. Чарнобыльская аварыя і яе наступствы

26 красавіка 1986 года на чацвёртым энергаблоку Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі (знаходзіцца яна на Прыпяці ў паўночнай Украіне, побач беларуска-ўкраінскай мяжы) здарылася вялікая аварыя, у выніку якой былі разбураны рэактарны блок і частка пабудовы. Пасля выбуху вялікая колькасць радыеактыўных рэчываў з актыўнай зоны рэактара была выкінута ў атмасферу і затым выпала ў асноўным трыма буйнымі „плямамі” ў Рэспубліцы Беларусь, на Украіне і заходніх абласцях Расіі. 70% усіх радыеактыўных ападкаў Чарнобыля прыйшлося на Беларусь.

У першы перыяд — красавік-май 1986 года — радыяцыйнае становішча ў асноўным вызначалася кароткажывучымі радыенуклідамі, і ў першую чаргу ёдам-131.

У цяперашні час, пасля натуральнага распаду каротка- і сярэднежывучых радыенуклідаў, асноўную небяспеку ўяўляюць радыенукліды цэзію-137, стронцыю-90 і плутонію.

У выніку Чарнобыльскай катастрофы ў Рэспубліцы Беларусь радыеактыўнаму забрудджанню падверглася 23% тэрыторыі, на якой аказалася 3 678 населеных пунктаў і 20% насельніцтва (больш за 2 млн. чалавек). Самымі пацярпеўшымі абласцямі аказаліся Гомельская і Магілёўская. Плямы радыяцыйнага забруджання маюцца таксама ў Брэсцкай, Менскай і Гродзенскай абласцях.

Працягваецца перасяленне з найбольш забруджаных тэрыторый. Выселены жыхары з так званай 30-кіламетровай зоны, якая абвешчана радыяцыйна-экалагічным запаведнікам. Аднак дзесяткі тысяч людзей прадаўжаюць жыць там, дзе немагчыма атрымаць чыстую прадукцыю на агародзе і ў полі, нельга купацца ў рэчцы, лавіць рыбу, нельга ў лесе збіраць ягады і грыбы.

Ахвярамі Чарнобыля перш за ўсё з'ўляецца больш за 300 тысяч хворых беларускіх дзяцей. Некалькі тысяч з іх хварэе на рака крыві. Некаторыя хваробы, як напрыклад рак шчытападобнай залозы (па-польску: тарчыцы) праяўляюцца толькі праз многія гады.

**Ю. БАЕНА**

# ЗАКУЛІССЕ „УЛІСА”

У апошнюю нядзелю студзеня Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа” правяло ў Беластоку семінар, прысвечаны выхаду друкам перакладу на беларускую мову рамана Джэймса Джойса „Уліс” *). „Уліс” з'ўляецца той кнігай, пра якую ўсе чулі, але якую мала хто прачытаў. Нічога дзіўнага, што ў час сустрэчы з прозай Джойса больш увагі адводзілася асобе аўтара „Уліса”, яго біяграфіі, гісторыі ўзнікнення кнігі ды некаторым прыкметам эпохі, у якой жыў і пісаў Джойс, чымсьці працы перакладчыка або пытанням, якія суправаджалі працэс трансляцыі.

Працу над „Улісам” Джойс пачаў у 1914 годзе. У тым жа годзе пісьменнік выдаў збор апавяданняў „Дублінцы”, а таксама завяршыў працу над апошнімі раздзеламі рамана „Партрэт артыста ў маладосці”. Яго літаратурнага таленту напэўна не прадвяшчала першая спроба — паэтычны зборнік „Камерная музыка”, выдадзены ў 1907 годзе, салодкія вершы пра нішто, як адзначаюць крытыкі.

Задума „Уліса”, відавочна, калацілася ў галаве Джойса ўжо раней — упершыню пісьменнік упамянуў пра яго ў 1906 годзе свайму брату Станіславу. Мела гэта быць яшчэ адно апавяданне ў зборнік „Дублінцы”. Аднак жа ў наступным годзе Джойс заявіў, што праца над „Улісам” не ступіла ні кроку па-за загаловак, але будзе ён напісаны, калі толькі ўмовы паспрыяюць. Умовы паспрыялі праз сем гадоў. У гэтым часе пісьменнік пазбіраў найдрабнейшыя дэталі свайго жыцця як у Дубліне, так і ў замежжы — паслужылі яны матэрыялам для ажыццяўлення адной з самых каласальных задум у сучаснай літаратуры.

„Уліс” дзеецца 16 чэрвеня 1904 года ў сталіцы Ірландыі Дубліне. Дзеянне гэтае не выходзіць па-за рамы адных сутак. Дату 16 чэрвеня Джойс вылучыў з увагі на тое, што гэтага дня сустрэўся ён на супольны шпацыр з Норай Барнакл, сваёй будучай жонкай. Ад „падзеі” гэтай іншых слядоў у рамане няма. Хіба толькі адна тая акалічнасць, што як дублінскі Уліс, так і яго жонка, Молі Блюм, з чуласцю зберагаюць у сваёй памяці адзін дзень з часу сваіх залётаў. 16 чэрвеня 1904 года было б пазбаўленае якога-небудзь значэння, як у кантэксце сусветных падзей, так і жыцця самога Дубліна, калі б яго не зарэгістраваў у сваёй кнізе Джойс як „Блюмавы дзень”.

Дзве іншыя падзеі з жыцця пісьменніка больш ярка адлюстраваліся ў рамане. Першай з іх адзначаецца „Уліс”. Ідзе спрэчка паміж Бакам Маліганам і Стывенам Дэдалам. Прататыпам першага персанажа стаў нейкі Олівер Гогарты — у часах Джойса чалавек вядомы ў Дубліне як пісьменнік і выдатны хірург. Другі персанаж, Стывен Дэдал, можна ў некаторай меры лічыць як партрэт маладога Джойса. Абодва яны крыху сябравалі, супольна падзяляючы незадаволенасць Ірландыяй, а нават час які супольна жылі — у абарончай вежы, некалькі дзесяткаў якіх ангельцы пабудавалі на ірландскім пабярэжжы, каб апярэдзіць марскі наступ французаў. Жыла з імі яшчэ адна асоба (літаратурны Хэйнс), якой аднаго разу праснілася чорная пантэра. Гэты апошні схапіў рэвальвер і стаў страляць у кашмар. Калі супакоіўся, рэвальвер забраў Гогарты. Кашмар аднак паўтарыўся і гэтым разам Гогарты даў некалькі стрэлаў — ужо па цалкам рэальных гаршках над ложкам Джойса. Не трэба было вялікай здагадлівасці, каб успрыняць усю сцэну як прысуд на высяленне Джойса (Гогарты прадчуваў, што Джойс рыхтуе яму не надта пачэснае месца ў сваім рамане). Вяртаючыся пехатою ў Дублін, Джойс зрабіў прынцыповую для далейшага свайго жыцця выснову — падаўся ў эміграцыю, дзе пражыў рэшту свайго жыцця (памёр 11 студзеня 1941 года ў Цюрыху).

Другая падзея, значэнне якой для рамана „Уліс” прынцыповае, датычыць моманту, калі Джойс, не звязаны яшчэ з Норай Барнакл, паспрабаваў завесці на вуліцы знаёмства з нейкай дзеўкай. Не прадбачыў аднак, што была яна ўжо з

☞ *Працяг на стар. 10*



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Зорка

## Старонка для дзяцей

МАКСІМ ТАНК

### ЛЕМАНТАР

Добры дзень, мой браце юны!
Я прынёс табе як дар
Ад Скарыны-бацькі кнігу —
Беларускі лемантар.

Гэта — ключ да скарбаў нашай
Мовы матчынай, з якой
Ты не станешся самотнай,
Безіменнай сіратой.

Дык раскрый яго з любоўю —
Літар стройныя рады
Прачытай і паўтары іх
Ї запомні назаўжды.

А — Айчына. Арабіна.
Б — Бабёр. Буслянка. Брод.
В — Вавёрка. Верабейка.
Г — Гумнішча. Гарызонт.

Д — Дуброва. Дом. Дарога.
Е — Еўропа. Ездавы.
Ё — Ёўня. Ёршык. Ёлка.
Ж — Жніво. Жур. Жураўы.

З — Зямля. Зіма. Завея.
І — Іголка. Іпадром.
К — Купала. Колас. Кніга.
Л — Лямеш. Лапата. Лом.

М — Мятліца. Медуніца.
Н — Настольнік. Нож. Навой.
О — Ордэн. Оптык. Ода.
П — Падлесак. Пень. Падвой.

Р — Рака. Разлог. Ракіта.
С — Сланечнік. Самалёт.
Т — Тапчан. Тачыла. Трактар.
У — Убор. Уток. Удот.

Ф — Флагшток. Фуганак. Флейта.
Х — Хлеб. Халадзец. Хадок.
Ц — Цвіркун. Цясляр. Цабэрак.
Ч — Чарот. Чырок. Чаўнок.

Ш — Шахцёр. Шпакоўня. Школа.
Э — Эстрада. Эшалон.
Ю — Юнак. Юргіня. Юрта.
Я — Апошні переразвон.

Ї таму, хто вымаўляе
Гэту літару ў жыцці,
Трэба быць сумленным, смелым,
Супраць злыбяды ісці.

Каб свабода і братэрства
Ззялі сполахам зары.
Вось якія скарбы, дружа,
Знойдзеш ты ў лемантары.



*Дзеці, што вывучаюць беларускую мову ў школе ў Аўгустове сустрэліся з настаўнікам і паэтам Юркам Баенам.* Фота М. Сахарэвіча

З гісторыі Беларусі

### СТАРАЖЫТНЫЯ ПАЯСЫ

Поясу заўжды адводзілася важная роля ў касцюме як жаночым, так і мужчынскім. Лічылі, што ён садзейнічае пладароддзю, абараняе ад хвароб, перагароджвае шлях „нячыстай сіле". Адным са старажытнейшых паясоў, што добра захаваліся, з'яўляецца скураны пояс з грунтовага магільніка ў Столінскім раёне, упрыгожаны бронзавымі бляшкамі і спражкай, які адносіцца да II ст. да н.э. — II ст. н.э.

Шмат вядома аб паясах з раскопак курганоў XI—XII стагоддзяў. Гэта паясы скураныя, з тканін, плеценыя, тканыя, з золататканай тасьмы. На скураных паясах і на паясах, шытых з тканін, насіліся жалезныя і бронзавыя спражкі са спіралепадобнымі канцамі. Да паясоў на ланцужках або шнурках падвешваліся амулеты: падвескі-конікі, бразготкі, ножыкі. Ножыкі часта, асабліва на Панямонні, знаходзяць у скураных вышываных футаралах. У кургане каля вёскі Відагошч на Лагойшчыне знойдзены цікавы жаночы пояс: скураны, ад пояса да кален спускаюцца чатыры шнуры з ваўнянай тканіны, перахопленыя частымі абручыкамі з бронзавай бляхі. Кожны са шнуркоў заканчваецца бразготкай.

Скураныя паясы ўпрыгожваліся бляшкамі (курганы каля вёсак Замошша і Рудня Полацкага раёна). На скураным поясе з пахавання хлопчыка 7—9 год каля вёскі Шо Глыбоцкага раёна былі металічныя пласцінкі сэрцападобнай формы з рэльефным штампаваным арнаментам і спражкай сэрцападобнай формы.

Сустракаюцца і паясы з падвешанымі скуранымі сумачкамі (вёскі Навінкі Талачынскага раёна, Батвінаўка і Юдзічы Рагачоўскага раёна, Вароніна Быхаўскага раёна).

Каштоўныя княжаскія паясы і паясы дружыннікаў лічыліся сімваламі храбрасці і багацця і перадаваліся ў спадчыну. Такія паясы вышываліся залатымі ці сярэбранымі ніткамі або ўпрыгожваліся бляшкамі з каштоўных металаў.

ЛЮДМІЛА ДУЧЫЦ

Вершы Віктара Шведа

### ПРЫРОДНЫ ДАР?

Бабуля сцежку топча
За ўнукам каб трапляць.
— Дзе ж навучыўся, хлопча,
Так брыдка праклінаць?

— Ты рассмяшыла ўнука, —
Адказвае Макар. —
Дык гэта ж не навука,
Толькі прыродны дар!

### КОКА-КОЛА

Спыталіся Андрушку:
— Скажы нам, хлопча любы,
Куды спяшае птушка
З саломінкай у дзюбе?

Падказвае малому
Гарэзлівы Мікола:
— Яна ляціць, вядома,
Напіцца кока-колы!

### ВІНАВАТЫ ЧОРНЫ КОТ

Мікалай дамоў
Вярнуўся з урокаў
З мноствам сінякоў
Ї з падбітым вокам.

— Зноў ты, абармот,
Хуліганіў многа!
— Сёння чорны кот
Мне прабег дарогу...

### ДОБРА, ШТО НЕ ТРЫНАЦЦАЦЬ!

— Шмат будзем мець нягод, —
Сцвердзіў са смуткам Фома. —
Пачаўся новы год
У пятніцу, вядома.

Адказвае Лявон:
— Няма чым хвалявацца,
Не распачаўся ж ён
Нам датаю трынаццаць!

### ВЕГЕТАРЫЯНЕЦ

— Чаму ты, Іване,
Вегетарыянец?
— У тым мая любоў
Да дарагіх звяроў.

— Тады ты не павінен
Спажываць і расліны,
Прысвечаныя ўсім
Звярочкам дарагім.

### ДЭТЭКТЫЎНЫ ЧЫТАЧ

— Чаму так упарта,
Назойліва надзіва,
На ўроках пад партай
Чытаеш дэтэктывы?

— Мушу тут прызнацца,
Што ў такіх умовах
Не магу заняцца
Кніжкай навуковай.

З вучнёўскай творчасці

### БЕЛАРУСАЧКА

Мая мова,
Як сонца,
Праменіцца,
Ускалыхнецца,
Бы ніва,
Не зменіцца.
Ветрык песню
Падхопіць
За жнейкаю:
То заплача
Самотна
Жалейкаю,
То званочкам
Яна
Засмяецца —
Лёгка ёй,
Беларусачцы,
Дома пяецца.

НАТАША МІЧКОВА,
г. Менск, школа н-р 180

### ФОКУС

У і Ф — суседзі. Доўга спрачаліся: хто з іх галоўны ў азбуцы?

У ўсё ўказвала:

— Уладарка азбукі я — уважлівая, увішная, удачлівая, удумлівая, узнёслая, умелая...

Ф фанабэрыста фыркала:

— Фу, уладарка, а я — фантазёрка, фігурыстка, футбалістка, фатограф...

— Уф, — уздыхнула У, — мо Ф і фокусніца?..

Аднаго разу Ф сказала:

— Фокус пакажу!

— Фантазёрка, — усміхнулася У.

Ф ускінула на сябе фокусніцкі фартух, на фанерку сыпанула фасолі. Узняла рукі ў бокі, забубнела:

*Футы-нуты — кот абуты,*
*Фуры-муры — збеглі куры,*
*Фукі-мукі — мыю рукі,*
*Фуці-аці — буду йграці.*

Ф ухапіла флейту. Музычны гук „фа" ўзляцеў увышыню. У тую ж хвіліну з фасолі ўмомант утварыліся... фламастэры.

У не ўтрымалася, ускрыкнула:

— Ф — не фокусніца, а чараўніца!

Ф выдула яшчэ адну ноту „фа", выдыхнула:

— Фу! Усякі фокус — пакуты.

З таго часу У і Ф — дружныя суседзі.

УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ

### ЛАГАГРЫФ




1. забава дзяцей, 2. краіна на поўдні Еўропы са сталіцай у Афінах, 3. ткацкі станок, 4. ваяка, 5. цвёрдая парода, будаўнічы матэрыял, 6. дрэва з белаю карою.

Вылучаныя літары складуць назву вялікага беларускага горада над Нёманам.

Адказаў чакаем два тыдні.



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

19

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## Усё наадварот

Прачытайце гэты вершык:
*Над вадою гнуцца козы,*
*Ля вады пасуцца лозы;*
*У траве квітнеюць ракі,*
*Пад карчом жыруюць макі;*
*Каля кветкі ўюцца косы,*
*Вербы ў рэчцы мыюць восы.*

Паспрабуйце прадоўжыць гэту „пейзажную замалёўку". Прыдумайце такія вершы на іншыя тэмы, прачытайце малодшым і дапамажыце ім разабрацца. Вядома, такія вершыкі не прэтэндуюць на званне высокапаэтычных — гэта ўсяго толькі гульня.

## Згубленая літара

Раздаюцца карткі, на кожнай слова з наклееных выразаных літар. Адна літара згубілася, яе не наклеілі, і трэба ўзнавіць яе: *в?рыва*. Добрай можна назваць работу вучня, які здагадаўся: *ворыва*; выдатнай — таго, хто знайшоў яшчэ і *варыва*.

Лепш, калі карткі будуць перфарыраваныя, зробленыя самімі ўдзельнікамі будучых гульняў для сябе або для малодшых:

ВЕРА РАКА сл?ва
ЛЕРА б
мера д п с н м

Першая картка разлічана на 2—3 словы; паклаўшы яе на чысты ліст паперы (іх можна злучыць скрэпкай), вучань упісвае ў акенцы патрэбныя літары і падпісвае сваё прозвішча; бал выстаўляе настаўнік і аддае ўсё вучню; азнаёміўшыся з вынікам сваёй работы, вучань вяртае перфакарту са скрэпкай настаўніку. Заданне: зрабіць такія карткі самастойна. За іх колькасць і якасць можна выставіць ацэнкі па пяцібальнай сістэме. Словы неабавязкова могуць быць назоўнікамі ў пачатковай форме (*зварка — сварка, скрэпка — скрыпка, мост — пост — рост*), дапушчальныя і іншыя часціны мовы і формы слоў: *вусы — бусы — русы, трава — арава — права — брава; ваўкі — валкі; ваткі* (мн. л. ад *ватка — вата) — вадкі* (прым.).

Другая картка мае даўжэйшую перфарацыю і разлічана на большую колькасць слоў. Яе можна зрабіць у іншым варыянце: замест акенца прымацоўваецца вузкая доўгая палоска паперы, на якой будуць запісаны ўсе магчымыя літары (г. зн. замест к у слове *рака* будзе стаяць лічба — колькасць магчымых літар: *ра7а*).

Трэцяя картка разлічана на вусны варыянт гульні: на малюнку *сліва*, у акенцы (яно не выразаецца) напісана *слова* — вучань павінен знайсці гэту недапаведнасць і, акрамя гэтага, пашукаць іншыя словы (*слава* і памяншальная форма імёнаў: Вячаслаў, Яраслаў, Уладзіслаў і інш. — *Слава*). Але гэту картку можна скарыстоўваць, як другую, і тады падпісваецца прозвішча, а таксама выстаўляецца бал.

##Ператварэнні

У казках мы даволі часта сустракаемся зператварэннямі: то чараўнікператварае царэўну ў жабу, то сам становіцца якой-небудзь істотай. У мовеператварэнні таксама нярэдкая з'ява, у тым ліку і ў словах. Ёсць і гульня, заснаваная на гэтай з'яве: змяняецца адна літара — і атрымліваецца зусім іншае слова. Так, прозвішча вядомага кінарэжысёра Эльдара Разанава лёгка ператварыць у прозвішча вядомага эстраднага артыста Генадзя Хазанава. Такое ператварэнне можа выклікаць смешную блытаніну, а часам і памылку, напрыклад: *елка* — хвойнае дрэва, *ёлка* — упрыгожанае на зімовае свята дрэўца.

Паспрабуйце і вы заняцца чараўніцтвам: ператварыце
*марскую буру ў атаку;*
*жаночае імя ў пару года;*
*звычку чалавека рухацца ў стыхійную з'яву;*
*жывёлу ў рэчку;*
*кветку ў востраў;*
*прыбор для вымярэння вуглоў у машыну;*
*расліну ў рыбу.*

Хто добра ведае азбуку, той зробіць гэта хутчэй, чым той чараўнік.

А вось заданне для чараўнікоў вышэйшага класа: ператварыце
*рыбу ў птушку, а птушку — у пасудзіну, у якой можна зварыць і рыбу, і птушку.*

Атрымалася? Тады — яшчэ:
*вазьміце зборнік старажытных мусульманскіх міфаў і ператварыце яго ў сушаную рыбу, а яе — у яшчарку, якая водзіцца ў пустынях, і хуценька (каб яшчарка не збегла!) зрабіце з яе свойскую жывёлу.*

Удалося? Дык займайцеся далей такімі ператварэннямі самастойна, і вы адолееце другую гульню, з якой пазнаёміцеся праз тыдзень.

*(працяг у наступным нумары)*

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Пачынаецца міжнародны футбольны матч. На трыбуне, дзе ёсць дарагія месцы, сядае хлопчык.
— Ты сам прыйшоў на матч? — пытае яго сусед.
— Так.
— І хапіла табе грошай на такі дарагі білет?
— Купіў яго мой тата.
— А дзе твой бацька?
— Шукае гэты білет дома.

* * *

— Што атрымаеш, калі падзеліш восем на палову? — пытае настаўнік Грышу.
— Гэта залежыць ад таго, як дзяліць. Калі ўпоперак, то атрымаем два нулі, а калі ўздоўж, тады дзве тройкі!

* * *

Стась уваходзіць у аўтобус і кажа шаферу:
— Ці можаце праехаць першыя два кіламетры з хуткасцю 30 кіламетраў у гадзіну, а наступныя тры — 50?
— Чаму пытаешся, хлопчык?
— Тады мне гэта памагло б рашыць задачу!

* * *

— У наш час дзяўчаты былі сціплымі, умелі чырванець, — кажа бацька дачцэ.
— Сапраўды? А што ты ім тады такое, татачка, гаварыў?

Даслаў А. ГАЎРЫЛЮК

## Адказ на „падарожжа"

**Ператварэнні.** *Шторм — штурм, Зіна — зіма, Лена — лета, паходка — паводка, асёл — Псёл, мальва — Мальта, транспарцір — транспарцёр, соя — сом. Сазан — фазан — казан. Каран — таран — варан — баран.*

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

# У ГРАХІ

Для гэтай гульні выбіраюць роўнае месца і робяць у зямлі столькі ямак, колькі дзяцей гуляе. Ямкі капаюць у рад: кожны выбірае сабе ямку і становіцца каля яе. З канцоў рада становяцца дзве маткі, якія качаюць кулю (мяч), мяркуючы так, каб куля трапіла ў чыю-небудзь ямку. Калі яна трапіць у ямку, то пакуль той, чыя ямка, нагнецца падняць кулю, усе хутка разбягаюцца, бо, як ён падніме кулю, усе павінны спыніцца на месцы. Той, хто трымае кулю, кідае яе ў бліжэйшага, а калі не пападзе, то кладзе ў сваю ямку грэх — маленькі каменьчык, а калі ўдасца папасці куляй, то грэх кладзе той, у каго папала куля. Калі ў аднаго з удзельнікаў гульні набярэцца тры грахі, яго прыгаворваюць да расстрэлу і ставяць да сцяны. Кожны з ігракоў можа ўдарыць яго куляю тры разы, калі ў іх ямцы няма ніводнага граху. Тыя ж, у чыёй ямцы ёсць грахі, б'юць прайграўшага столькі разоў, колькі ў іх не хапае грахоў да трох. Прайграўшы не можа сыходзіць са свайго месца, а можа толькі адхінацца ўбок.

Пасля гульню пачынаюць ізноў, як і раней.

ЭКАЛОГІЯ І МЫ

# ПАЧНЕМ З ЭЛЕМЕНТАРНАГА

Мы з вамі жывём у вельмі складаны час. Вы, пэўна, чулі, чыталі пра шматлікія экалагічныя праблемы. У дваццатым стагоддзі чалавек дасягнуў небывалых вышынь у даследаванні прыродных з'яў. А распрацаваныя ім магутныя тэхналогіі змянілі аблічча Зямлі. Паступова збядняюцца прыродныя скарбы, забруджваецца асяроддзе, у якім мы жывём, вынішчаюцца расліны і жывёлы, пагаршаецца стан вады, паветра, глебы. Многае страчана беззваротна. Нават бязлюдныя раёны амазонскай сельвы, далёкая Антарктыда спазналі ўплыў чалавечай дзейнасці.

Беларусь таксама не абмінуў экалагічны крызіс. І ад таго, ці хутка мы здолеем выйсці з яго, залежыць дабрабыт і здароўе нашага народа.

Пачынаць трэба з элементарнага — з культуры паводзін на прыродзе.

Памятайце, што кожнае зламанае дрэўца ці куст — гэта памяншэнне кіслароду ў паветры, якім мы з вамі дыхаем, без якога немагчыма жыццё.

Трэба вельмі асцярожна абыходзіцца з агнём у лесе. Прыкра робіцца, калі бачыш спалены па віне людзей лес!

Не пакідайце пасля сябе ў лесе паперу, бляшанкі, пакеты з-пад малака, бутэлькі. Засыпце вогнішча пяском, закапайце смецце ў зямлю — будзе спакойна і прыемна на душы ад думкі, што вы робіце так, як павінен рабіць кожны сумленны, выхаваны чалавек.

Трэба памятаць, што ў прыродзе няма непатрэбных птушак, насякомых, рыб ці іншых жывёл: усё ў ёй ураўнаважана і ўзаемазвязана. Чалавек не раз перасяляў які-небудзь патрэбны яму від жывёлы ці расліны ў новыя ўмовы, не думаючы, да чаго гэта можа прывесці. Напрыклад, трусы і кактусы апунцыя, завезеныя перасяленцамі ў Аўстралію, катастрафічна размножыліся і сталі вялікаю бядою для аўстралійскіх фермераў. Альбо, наадварот, знайшліся людзі і пачалі барацьбу са шкодным, на іх погляд, мясцовым відам птушак, як гэта адбылося ў свой час у Кітаі, з вераб'ямі, — размножыліся шкодныя насякомыя. Неабдуманыя дзеянні чалавека прыводзяць да парушэння раўнавагі ў прыродзе.

Беражыце рэдкія дзікія расліны, жывёл, якія занесены ў Чырвоную кнігі. Не рабіце букетаў з такіх веснавых першацветаў, як пралеска высакародная, сон-трава. Гэтыя віды, на жаль, знішчаюцца, іх колькасць пастаянна змяншаецца ў нашых лясах. Не збірайце ахапкамі лекавыя травы. Трэба берагчы генетычны фонд жывой прыроды, а калі частку яго скарыстоўваць на патрэбу чалавеку, дык строга, па навукова ўстаноўленых нормах.

Калі збіраеце ў лесе грыбы, старайцеся не пашкодзіць грыбніцу, якая знаходзіцца ў лясным падсцілe. Трэба зрэзаць грыбную ножку нажом, а не выдзіраць разам з коранем. У раёнах Беларусі, якія адзначаны на вядомых ужо картах як забруджаныя радыеактыўнымі рэчывамі, грыбы збіраць нельга, бо яны назапашваюць у сабе шкодныя для здароўя мікраэлементы. Гэта ж датычыцца пладоў і ягад.

Не імкніцеся для хуткасці збору ягад ужываць саўкі (так званыя „камбайны"), асабліва калі збіраеце чарніцы ці буякі. Памятайце, што „камбайны" шкодзяць ягаднікам, бо здзіраюць з іх лісце.

Вы можаце шмат зрабіць, дапамагаючы птушкам і дзікім капытным жывёлінам. Гэта і пабудова шпакоўняў, дуплянак, кармушак, засыпанне корму, раскладанне солі-лізунцу для капытных, выкладка галечнікаў для глушцоў, цецерукоў і некаторых іншых птушак.

Уключыўшыся ў працу па азеляненні вашага горада, вёскі, вуліцы, школьнай тэрыторыі, вы палепшыце прыроднае асяроддзе і з пункту гледжання прыгажосці, і ў сэнсе ачышчэння паветра ад шкодных рэчываў, якія выкідаюць прамысловасць і транспарт.

Жадаю поспеху ў высакароднай справе па ахове прыроды!

КАНСТАНЦІН ЧУБАНАЎ
Бельск

*Вучні з Крыўца ставяць экалагічны спектакль.* Фота М. Лукшы



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## LXIII. НЕ СТВАРАЮЧЫ САБЕ КУМІРАЎ

Ужо ў Старым Запавеце, у пятай кнізе Майсеевай быў дадзены наказ, каб народ Божы „не дэмаралізаваўся і не ствараў сабе статуй, увасабленняў якога-небудзь куміра". Таксама другая з дзесяці запаведзяў Божых наказвае: „Не рабі сабе куміра, ані чагосьці падобнага да таго,... не пакланяйся ім і не служы ім". Праваслаўныя строга падпарадкоўваюцца гэтым патрабаванням і пазбягаюць стварання статуй і пакланення ім. Але гэта зусім не значыць, што ў праваслаўнай культуры адсутнічае скульптура, яна спакон веку спадарожнічае праваслаўным.

Найбліжэйшы прыклад таму нацельныя і нагрудныя крыжы, якія праваслаўныя носяць на сабе ад моманту прыняцця св. хрышчэння. Іх заўсёды стараліся выконваць дбайна і здобіць разьбою постаці раскрыжаванага Хрыста, выявы Маці Божай, Апосталаў, шматфігурнымі кампазіцыямі на евангельскія тэмы. Нацельныя і нагрудныя крыжы з X-XIII ст.ст. археолагі знайшлі на Падляшшы, у Драгічыне на Бугу. Але самы выдатны помнік беларускага царкоўнага мастацтва ранняга сярэднявечча — гэта святыня нашага народа, крыж Еўфрасінні Полацкай, выкананы таленавітым полацкім залатаром Лазарам Богшам у 1161 г. У гэтым творы спалучаны ў адзінства розныя віды мастацтва: мастацкая абробка металу, гравіраванне, эмаліраванне, якое патрабуе ад майстра вялікага ўмельства і глыбокіх ведаў. Крыж Еўфрасінні Полацкай — гэта красамоўны доказ разнабаковага развіцця мастацтва ў старажытнай Беларусі. „Мастацкія якасці крыжа Еўфрасінні Полацкай, тэхнічны ўзровень эмалевага дэкору не саступаюць лепшым узорам (тадышняга — МГ) візантыйскага прыкладнога мастацтва, якія карысталіся сусветнай вядомасцю", — піша мастацтвазнаўца А. Сямёнаў.

З самых пачаткаў хрысціянства на беларускіх землях пашыралася царкоўная разьба па камені. Знойдзены каменныя іконкі „Канстанцін і Алена" з XII ст. у Полацку, „Мікола і Сцяпан" з XIII у Мінску і інш. З XV ст. паходзіць славутая цудадзейная каменная іконка Жыровіцкай Божай Маці, а з XVII ст. датуецца таксама вырэзьбленая ў камені ікона Ляснянскай Божай Маці, што цяпер знаходзіцца ў каталіцкім касцёле ў Лясной каля Белай-Падляшскай. Усе гэтыя творы невядомых аўтараў.

Нашыя продкі былі майстрамі ў разьбе па косці. Захаваўся высокамастацкі касцяны абклад Аршанскага Евангелля з XIII ст., іншыя паасобныя іконкі і часткі іх, а таксама высокамастацкі абклад Лаўрышаўскага Евангелля з XIV-XV ст. з Лаўрышаўскага манастыра каля Навагрудка. „У Благавешчанскай царкве Супрасльскага манастыра знаходзіліся „... крэст с частицами древа Животворящего Креста Господня" 1500—1510 г.г., дарахавальніца, якая мела выгляд Супрасльскай царквы, дар Хадкевіча — пацір (чаша — МГ) срэбны з пазалотай з яго гербам. Тут жа захоўвалася шмат іншых рэчаў: пацiраў, дзіскасаў, абкладаў кніг і абразоў, аздобленых рознымі відамі дэкору: гравіраваннем, эмаллю, чарненнем, чаканкай", — прыгадвае А. Сямёнаў і працягвае: „У той жа Благавешчанскай царкве Супрасльскага манастыра захоўваліся „Евангелие пергаментное старое, новокованное сребром и позолотою со всех сторон" і „Евангелие напрестольное у великой церкви, новое с оковы серебряными, с позолотою", цытуючы славуты „Реистрик" архімандрыта Сергія з 1557 г.

На крыжах з пераломау XV і XVI ст.ст., што паходзіць з беларускага горада Друцка, знаходзяцца выпуклыя малюнкі, інакш рэльефы раскрыжаванага Хрыста, Святой Тройцы, Стрэчання, Сашэсця ў пекла, Праабражэння, Сашэсця Святога Духа на Апосталаў.

Побач з мноствам натхнёных, таленавітых разьбяроў, гравёраў, чаканшчыкаў, залатароў, якіх прозвішчы не дайшлі да нас, гісторыя шчасліва час ад часу захавала некаторых імёны. Гэтак з першай чвэрці XVI ст., значыць у часы дзейнасці Скарыны і мітрапаліта Солтана, працаваў пры двары князя пінскага Фёдара Іванавіча Яраслаўіча разьбяр Ананія. З невядомай колькасці яго скульптураў і іншых прац да нас дайшлі дзве: „Прамудрасць стварыла сабе храм" і „Святы". Гэтыя работы складаюцца з мноства кампазіцый, фігураў, цытатаў са Святога Пісання. „Постаці і жэсты выяўляюць душэўны стан персанажаў і маюць не толькі абрадавую, але і псіхалагічную матывіроўку", — адзначае іншы беларускі мастацтвазнавец Э. Вецер. Гэтыя творы сведчаць пра высокае майстэрства разьбы па дрэву ў тыя часы на беларускіх землях. Варта адзначыць, што князь пінскі Фёдар Іванавіч — гэта родны брат княжны Васілісы Іванаўны, жонкі Аляксандра Хадкевіча, фундатара і шчодрага апекуна Супрасльскага манастыра; яна, між іншым, доўгі час жыла ў Гарадку і Заблудаве.

Разьбярскае майстэрства асабліва інтэнсіўна развівалася ў мінулым і развіваецца ў наш час у стварэнні іканастасаў і царскіх варотаў у іх. Гэтая, адна з асноўных частак праваслаўных храмаў, заўсёды выконваецца вельмі дбайна і старанліва. Створкі царскіх варотаў, як правіла, складаюць суцэльную далікатную разьбу з раслiннымі і геаметрычнымі арнаментамі, паліхрамаванымі золатам або далікатнай густоўнай размалёўкай, а ў іх абрамленнях знаходзяцца іконы Благавешчання і чатырох Апосталаў-Евангелістаў. Нярэдка іконы таксама вырэзьблены, як напрыклад у царскіх варотах у храме ў вёсцы Варнілавічы каля Пружанаў на Берасцейшчыне. „Майстар умела размяшчае персанажы ў прасторы, дакладна перадае лінейную і колеравую перспектывы, старанліва прапрацоўвае архітэктурны фон з гатычнымі вежамі, чарапічнымі дахамі, купаламі цэркваў. У абліччы персанажаў падкрэслена індывідуальнасць характараў...", — заважае Э. Вецер.

У XVII ст. беларуская рамавая разьба, асабліва па дрэву, дасягнула вяршынь майстэрства і ўславілася ў суседніх краінах. Воляй і няволяй значная колькасць беларускіх разьбяроў трапіла ў Маскоўскую дзяржаву. Між іншым, там у 1683-1685 г.г. арцель пад кіраўніцтвам Кліма Міхайлава з беларускага горада Шклова стварыла славуты іканастас у Смаленскім саборы Новадзявочага манастыра ў Маскве, іншыя арцелі беларускіх разьбяроў выканалі іканастасы, кіёты, рамы для вялікіх іконаў і другія элементы інтэр'ераў у многіх цэрквах Маскоўскай дзяржавы. Адметны стыль і майстэрскае выкананне гэтых прац набылі назву „беларуская рэзь" і цаніліся вышэй за ўсе віды разьбы.

Варта адзначыць, што традыцыя стварання суцэльных рэзьбленых не толькі царскіх варотаў, але і ўсяго іканастаса адрадзілася ў працы сучаснага таленавітага беларускага мастака-разьбяра Вячаслава Шума з Сямяцічаў. Ён гадоў таму 15 назад выразьбіў па дрэву арыгінальны і глыбокі сваёй духовай вымовай іканастас у Свята-Ўвазнясенскай царкве ў Цеханоўцы, што ў Ломжынскім ваяводстве.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

НАШЫ КАРАНІ

## ШАСЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ ПРУЖАНСКАЙ ІКОНЫ

Чытачы ўжо ведаюць пра цуд у Пружанах з майго артыкула „Што далі Пружаны Падляшшу" („Ніва" н-р 4 ад 23 студзеня 1994 г.). У 1934 г. Варшаўская Праваслаўная Мітраполія выпусціла папяровую каляровую ікону размерам 10 x 17 см, а на ёй белым адвароце быў змешчаны наступны тэкст:

*ПРУЖАНСКАЯ ІКОНА „ПЛАЧУЧАЙ БАГАМАЦІ"*

*У 1934 г. 9 красавіка ў Пружанскім Саборы здзейснілася цуда: з вачэй Багамацi на іконе Яе ў Галгофы пачалі цячы слёзы. На твары Багамаці былі прыкметны тры слязы; на грудзях Багамаці са слёз стварылася макрата, з якой слёзны ручаёк сцякаў да самых ступняў Багамаці.*

*У выніку духоўнага следства ўстаноўлена факт цудоўнай прыкметы.*

*22 красавіка 1934 г. на пакланенне іконе „Плачучай Багамаці" прыбыў Высокапраасвяшчэнны Аляксандр, Архіепіскап Палескі і Пінскі.*

*У Пружанскім Саборы кожны дзень спраўляецца Бажэственная Літургія і Акафіст Прасвятой Багародзіцы.*

*Святкаванне Пружанскай іконы „Плачучай Багамаці" — у Светлую Пятніцу Пасхальнай Сядміцы.*

А вось якія колеры на іконе: крыж — залацісты, у Багамаці верхняе ўбранне — сіняе, а сподняе — чырвонае. У св. апостала Іаана Багаслова сподняе ўбранне —зялёнае, а верхняе — чырвонае. На жаль, на іконцы не напісана, што цуд трываў не мінуту, не гадзіну, але некалькі дзён.

„Галгофа" стаіць у правым бакавым нефе царквы св. Аляксандра Неўскага і цяпер мае за фон абрысы горада Іерусаліма.

Добра было б, каб хтосьці паехаў у Пружаны зрабіць фатаграфію самога твару Божай Маці, каб



можна было разгледзець намаляваную слязу.

Цуд здарыўся ў той час, калі Пружаны і Падляшша знаходзіліся ў адной дзяржаве, у адным гістарычным перыядзе. Таму і Беласточчына павінна памятаць аб гэтым і ўмець аб'яснiць тое іншым рэгіёнам для большай хвалы Праваслаўя сярод каталікаў.

**СЭРАФІН КОРЧАК-МІХАЛЕЎСКІ**

## ЯШЧЭ АБ VII УСЯЛЕНСКІМ САБОРЫ — НІКЕЯ, 787 г.

Новы сёмы сабор меў адбыцца ў Канстанцінопалі ў 786 г., але разагнала яго армія, якая служыла партыі лібералаў, выступаючай за іканаборства. Таму сабраліся другі раз у Нікеі 24 верасня 787 г. Астатняя восьмая сесія адбылася 23 кастрычніка 787 г. у Канстанцінопалі. Старшынёй Сабору быў візантыйскі патрыярх Тарасій. Ад папы рымскага прыехалі два прадстаўнікі. На чацвёртай сесіі прыпомнілі Трулiянскі Сінод 692 г., як прадаўжэнне VI Сабору, на якім зраўнялі ў 16 каноне папу рымскага з канстанцінопальскім патрыярхам. На Саборы быў адчытаны Сімвал Веры без слоў „і Сына" і было паўторанае праклццце на ерэтыка — рымскага папу Ганорыя I (625—638) за монафелетызм. Прадстаўнікі Рыма не пратэставалі супраць гэтага згодна з лістом папы Адрыяна I (772—795) і падпісалі ўсе пастановы Сабору. Толькі сто гадоў пазней папскі перакладчык Анастасій Бібліятэкар сфальшывіць акты Сабору і ўпіша словы „і Сына" ў Сімвал Веры. Фальсіфікат будзе адкрыты толькі на фларэнцкім саборы ў 1438 г.

Калі пратакол Сабору атрымаў папа Адрыян I, ён яго падпісаў і пераслаў каралю Франконіі Карлу Вялікаму, каб ён яго прызнаў. Але Карл Вялікі не захацеў прызнаць пастановы гэтага Сабору, на які яго не запрасілі і на якім не адчыталі Сімвала Веры са словамі „і Сына". Да гэтай пары ён быў за шанаваннем ікон, а цяпер наперакор грэкам змяніў свае погляды і ў 792 г. выдаў Quattour libri Carolini, у якім даў свае заўвагі на тэму пастаноў VII Сабору, дзе пашану ікон назваў „смешнай справай", а ўвесь франконскі епіскапат у Франкфурце-на-Майне асудзіў VII Сабор. Пастановы франфурцкага сабору Карл Вялікі пераслаў папу Адрыяну I, каб ён іх прыняў і аб'явіў абавязковымі. Папа не мог гэтага зрабіць, бо ўжо зацвердзіў пастановы VII Сабору, але баяўся выступіць супраць Карлу Вялікаму як „наследнік апостала Пятра". У сувязі з гэтым Заходні Касцёл без перашкод прапаведаваў іканаборства да смерці Карла Вялікага, а да XII стагоддзя не прызнаваў VII Сабору ўсяленскім і прававерным. VII Сабор быў апошнім саборам Усходніх Цэркваў і Праваслаўная Царква не прызнае аўтарытэту пазнейшых сабораў, скліканых рымскімі папамі на Захадзе. Праваслаўная Царква прызнае толькі сем усяленскіх сабораў.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МАЯ НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

## Частка VII

Дзевяностагоддзе з дня нараджэння Наталлі Арсенневай сталася і маім святам. Пры гэтай нагодзе прыгадалася мне ўся гісторыя майго знаёмства з творчасцю паэткі. У Галоўным праўленні БГКТ запрапанаваў я правесці ўрачысты вечар, прысвечаны яе жыццю і творчасці. І такі вечар быў праведзены. З вялікім здзіўленнем сцвердзіў я, што на вечар гэты з усёй шматлікай грамады беластоцкіх беларускіх пісьменнікаў і журналістаў прыйшло толькі двое — Міра Лукша і Янка Целушэцкі. Усе іншыя засталіся ў кватэрах пры тэлевізарах, лічачы, мабыць, што шаблонныя „Дынасты" больш істотныя, чым магчымасць ушанавання юбілею вялікай беларускай пісьменніцы. Па-другому аднесліся да постаці паэткі настаўнікі беларускай мовы ў Польшчы. У кастрычніку мінулага года ў Бельску-Падляшскім была праведзена настаўніцкая канферэнцыя, на якую быў я запрошаны з дакладам аб Пісьменніцы. Сабраныя настаўнікі аднагалосна прынялі запрапанаваны мною тэкст прывітальнага ліста Наталлі Арсенневай.

Супрацоўнікі і студэнты Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта падтрымалі ідэю правядзення навуковага семінара, прысвечанага жыццю і творчасці эміграцыйнай паэткі. Семінар такі будзе праведзены ў Варшаўскім універсітэце ў чэрвені 1994 года.

Беларусісты Варшаўскага універсітэта падтрымалі мой праект прывітання Наталлі Арсенневай. Вось яго змест:

Спадарыні
Наталлі Арсенневай
Злучаныя Штаты Амерыкі

Мы, студэнты і працаўнікі Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, з нагоды дзевяностых угодкаў Вашага нараджэння, выяўляем гарачую ўдзячнасць за той тытанічны высілак, які Вы ўнеслі ў развіццё беларускай літаратуры, а таксама за тое, што Вы, нягледзячы на многагадовы адрыў ад Радзімы, ніколі не згубілі веры ў адраджэнне Беларусі і яе незалежны быт. Вашы цудоўныя вершы былі і застаюцца маральнай падтрымкай для ўсіх тых, хто лічыць Беларусь найвялікшым сваім скарбам і вечнай каштоўнасцю. Вы — княгіня беларускай красы, Вы — рыцарка беларускага змагання, Вы — каралева беларускай надзеі. Вашы вершы былі палымянымі паходамі, якія вялі людзей з цемры і сталіся яскравымі сонцамі, якія свецяць над імі ў вызваленай з-пад тыраніі Беларусі.

Вы, Наталля Арсеннева, былі, ёсць і будзеце ўласнасцю ўсіх беларусаў, незалежна ад таго, ці жывуць яны ў сваёй дзяржаве, ці іх лёс кінуў на абшары далёкай чужыны. Вас, як сваю сардэчную ўласнасць успрымаюць таксама беларусы з Польшчы, студэнты і навуковыя працаўнікі Кафедры беларускай філалогіі, шчаслівыя, што маюць нагоду і магчымасць адзначыць Ваш слаўны юбілей.

Прыміце, Дарагая Юбілярка, пажаданні доўгіх гадоў жыцця, добрага здароўя, творчых задум і далейшых цудоўных вершаў, якія будуць вечна ўкветчваць беларускую нацыю сваёй нязгаснай красой, чароўнасцю ды чалавечай глыбіннасцю.

Жыве Наталля Арсеннева!
Жыве Беларусь!

Ад імя студэнтаў і навуковых працаўнікоў Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта

Праф. д-р габ.
Аляксандр Баршчэўскі.

Прагну дабавіць, што ў праграмах навучання гісторыі беларускай літаратуры ў нашай Беларускай філалогіі ўжо некалькі гадоў вядзем заняткі па беларускай эміграцыйнай літаратуры і асаблівую ўвагу прысвячаем жыццю і творчасці Наталлі Арсенневай. Дзякуючы гэтаму веды аб паэзіі Вялікай Наталлі становяцца ўласнасцю ўсё большай кагорты беларусаў. Маю надзею, што настаўнікі беларускай мовы на Беласточчыне ўсё большую дозу Арсеннезнаўства будуць даводзіць да свядомасці беларускіх дзяцей і беларускай моладзі.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# ГРАМАДСКАЯ ДАПАМОГА Ў БЕЛЬСКУ

*Працяг са стар. 3*

Заданнямі цэнтральнага фонду абнятых было 488 сем'яў, а ўласнымі заданнямі горада — 1019 чалавекі. У мінулым годзе дамінуючымі аказаліся пастаянныя і часовыя грашовыя дапамогі, дапамогі на ўтрыманне кватэраў, пакупку лякарстваў, прадуктаў харчавання, вопраткі, апалу, на заплату за абеды дзяцей у школах, дапамогу ў апякунскіх паслугах.

25 лютага гэтага года Гарадская рада прыняла пастанову ў справе ператварэння бюджэтнай установы пад назвай Гарадскі асяродак грамадскай дапамогі ў бюджэтнае прадпрыемства. Істотнай мэтай ператварэння гэтай бельскай самаўрадавай арганізацыі з'яўляецца пашырэнне яе дзейнасці і стварэнне магчымасцяў выпрацавання ўласных даходаў на рэалізацыю грамадскіх заданняў.

Апрацаваны кіраўніком асяродка і зацверджаны раднымі статут прадугледжвае наступныя формы пашырэння дзейнасці:

— уключэнне ў лік заданняў гміны апеку над хворымі і старымі ў іх сталым месцапрабыванні,

— стварэнне магчымасцяў харчавання ў адным пункце, як платнага, напрыклад для пенсіянераў, так і бясплатнага для найбольш патрабуючых,

— збор і размеркаванне ўжыванага адзення,

— пашырэнне далейшых грамадскіх паслуг (у тым ліку ёсць прапанова весці невялікую начлежку).

Гарадская рада вырашыла таксама, што асяродак грамадскай дапамогі атрымае новае памяшканне пры вуліцы Казімяжоўскай 3 „б" — у будынку былога дзіцячага садка н-р 7.

Нельга не сказаць пра людзей, якіх штодзённая праца звязаная з бельскім асяродкам грамадскай дапрамогі. Зараз у ім працуюць 23 чалавекі: кіраўнік, 2 асобы ў адміністрацыі, 8 сацыяльных працаўніц у раёнах горада, 12 апякунак над хворымі і старымі. Усе яны жанчыны. 19 гадоў установай умела кіруе магістр Зянобія Таранта.

Мне прыйшлося пазнаёміцца з некаторымі працаўніцамі асяродка. Хачу адразу сказаць, што — як рэдка дзе ў сённяшні час — гэта людзі высокай асабістай культуры, ветлівыя, уражлівыя на праблемы людскіх лёсаў, з пачуццём справядлівасці, жыццёвай тактоўнасці ды сціпласці. Менавіта такія людзі многім жыхарам майго горада даюць найбольш аптымізму і надзеі.

**ЮРЫ БАЕНА**

# ШТО ТАКОЕ З ЛЮДЗЬМІ РОБІЦЦА?

Прачытала я ліст Васіля Петручука, у якім абураецца ён на „Ніву" і палохае, што кіне яе старонкі назаўсёды.

Шкада, што мілы дзядзька Васіль такім „ганаровым" зрабіўся. Добры з яго быў карэспандэнт...

Не ведаю, чаму для некаторых такое істотнае, каля каго прыходзіцца ім стаяць, у гэтым выпадку — каля чыёга верша быў надрукаваны верш вядомага пісьменніка. Мне здаецца, што добра, калі ёсць дзе надрукаваць.

З поглядамі Мікалая Панфілюка я таксама не заўсёды згодная, але яганыя тэксты прыдатныя рэдакцыі хоць бы для палемікі. Быў час, што ён таксама абураўся на „Ніву" і рашаў не пісаць, але ўсё-такі не парваў сувязей, а распаўсюджваў тыднёвік.

Маю надзею, што паважаны Васіль Петручук зменіць сваё рашэнне і зноў пабачым яго тэксты на старонках нашага адзінага беларускага тыднёвіка.

**АЎРОРА**

*Працяг са стар. 5*

кавалерам. Пасля кароткай калатнечы Джойс апынуўся плящкам на вуліцы — з падбітым вокам. Абтрапаў яго з пылу і адвёў дахаты Альфрэд Хантэр (пра якога менавіта Джойс задумваў апавяданне „Уліс"). Паражальным для Джойса ва ўсім гэтым здарэнні было тое, што з бескарыслівай дапамогаю прыйшоў яму незнаёмы чалавек, з іншым характарам і з іншай культуры. Хантэр быў яўрэем, хадзілі таксама чуткі, што меў ён няверную жонку. Джойс сустрэўся з ім разы два — недахоп у знаёмстве выйшаў пісьменніку на карысць, бо даў шырокую прастору для пабудовы характару галоўнага героя рамана, дублінскага Уліса, Леапольда Блюма. Паралель паміж Гамераўскім Адысеем і дублінскім Улісам Джойса належыць да самых адвольных у літаратуры, але, паводле Джойсавай меркі, з'яўляецца апраўданай. Якасць жыцця, лічыў Джойс, нязменная з Гамераўскіх часоў, яна паўтараецца ў штораз новых акалічнасцях і персанажах, няхай сабе і камічных, як у выпадку Блюма. Іншыя Гамераўскія элементы таксама знайшлі сваё месца ў рамане — ветрам сёння не кіруе ўжо бог Эол, але галоўны рэдактар дублінскай газеты ўзмозе пакіраваць вятрамі грамадскай думкі, аднавокага Цыклопа Джойс замяніў ірландскім ультранацыяналістам, якому нароўні з прататыпам бракуе двухвочнай перспектывы, а і сам горад Дублін вечаровою парою дастаўляў небяспекі параўнальныя з небяспекамі падарожжа па антычным Міжземным моры. Гэта толькі некаторыя прыклады.

# ЗАКУЛІССЕ „УЛІСА"

Гісторыя выхаду кнігі друкам не менш заблытаная, чым ейны змест. Калі Джойс даводзіў першыя раздзелы „Уліса" да выгляду, у якім можна было іх аддрукаваць на машынцы, стаў публікаваць раман кавалкамі ў журналах. Вялікую клапатлівасць у Джойсавых справах праявілі яго знаёмыя і сябры, між іншым, Эзра Паўнд. Ён, баючыся за лёс кнігі ў цэласці, без ведама Джойса выкрэсліў з тэксту дваццаць радкоў — сцэна, калі Блюм выпаражняецца. Калі б суд усчаў расследаванне супроць фрагмента „Уліса", лічыў Паўнд, аўтаматычна накклала б гэта забарону на выданне кнігі ў цэлым. Расследаванне такое фактычна пачалося. Трэба памятаць, што ў той час кніга Джойса лічылася з некаторымі сваімі слоўцамі і выразамі гутарковай мовы моцна непрыстойнай. Да таго ж, Джойс быў першым пісьменнікам, які свайго героя пасадзіў на... нужнік.

Афіцыйна кніга была дапушчана ў друк спярша ў Амерыцы, дзе федэральны суд прызнаў раман надта заблытаным і туманным, каб узбудзіць у чытача сексуальную пажадлівасць. Да гэтага моманту праз Парыж пракаціліся некалькі пірацкіх тыражоў „Уліса". Хутка з'явіліся пераклады — на нямецкай, французскай, чэшскай мовах. „Самым класічным" перакладам лічыцца французскі — быў ён перачытаны і адрэдагаваны Джойсам. Яшчэ пры жыцці Джойса была напісаная кніга, якая сёння з'яўляецца асновай усялякага доследу наконт Джойса і „Уліса" — „Уліс Джэймса Джойса" аўтарства Сцюарта Гільберта. „Уліс" быў выдадзены ў 1922 годзе.

Эстэтычную канцэпцыю літаратуры, — сказаў на семінары „Белавежы" перакладчык „Уліса" на беларускую мову Ян Максімюк, — Джойс узяў у св. Фамы Аквінскага, які ў сваю чаргу ўзяў яе ў Арыстоцеля. Твор мастацтва паводле Джойса павінен вылучацца трыма прыкметамі: integritas (цэльнасць), consonantia (сугучча, гарманійнасць) і claritas (прамяністасць, яснасць). Літаратуру Джойс распадзяліў на кінетычную, якая выклікае пачуццё агіды (літаратура адукацыйна-маралізатарская) або пажадлівасць (літаратура парнаграфічная) і статычную, якая сузірае жыццё такім, якім яно ёсць. Гэтую апошнюю літаратуру Джойс прыняў як аснову свайго пісьменства.

**Л. БАГАНЕЦ**

---

***)** *Джэймс Джойс „Уліс", першы том, пераклаў Ян Максімюк, Беласток 1993.*

*Кнігу можна набыць у рэдакцыі „Нівы".*



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ДРУГІ ДЗЕНЬ ПАСЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

## 6 лютага 1945 г.

Было ўжо відно на двары, калі я прачнуўся. У пакоі поўна салдат. Баўэр з сям'ёй снедалі і мне далі тры бутэрброды. Салдаты, відаць, паснедалі пры палявой кухні. Не паспеў я з'есці, калі прыйшоў старшына і загадаў мне і немецкім мужчынам ісці капаць магілы для забітых салдат.

Павялі нас на хутар, дзе былі ўжо Валянцін і Пэтэр з Косцем, а таксама нашыя дзяўчаты: Лідка, Насця і Вера. Для ўсіх не хапіла рыдлёвак і мы стаялі ды глядзелі, як немцы капаюць магілу. Сяржант, які наглядаў за працай, падышоў да нас і сказаў:

— Пускай немцы работают, вы уже здесь наработались. Идите домой! Я вас отпускаю, уходите! Неволя у вас окончена. Вас ждут дома родные.

Мы разышліся па дамах за сваімі рэчамі, а потым усе разам накіраваліся на поўдзень, у напрамку Васэндэна.

— Я не думаў, — адазваўся ў дарозе Валянцін, — што рускія будуць гвалціць немак. У маіх суседзяў ёсць дзве дачкі, адной чатырнаццаць, а другой шаснаццаць гадоў. І адну, і другую салдаты забралі ў пуню і выстраіліся ў чаргу да іх. Гадка было глядзець.

— Добра што мы з Лідкай зарання схаваліся, а то ўвесь вечар салдаты бегалі і нас шукалі, — прамовіла Насця.

— А пры мне ў ложку ўсю ноч ляжаў рускі афіцэр і нагаварваў мяне, каб я яму аддалася, аднак я не згадзілася. І быў ён усё ж такі далікатны, што сілай мяне не ўзяў, — сказала Вера.

На паўдарозе ў Васэндэн спаткалі мы групу салдат і сталі гутарыць з імі. Раптам недалёка ад нас разарваўся мінамётны снарад. Асколкі нікога, на шчасце, не пакалечылі і мы хуценька разышліся. Недалёка Васэндэна затрымаў нас знаёмы мне капітан-палітрук. Распытаўшы нас, куды мы ідзем і, разгледзеўшы нашы дакументы, адпусціў нас. Ужо ў Васэндэне з аднаго дома выбег салдат і загадаў Лідцы пайсці за ім у штаб. Яна доўга не вярталася і мы вырашылі пайсці даведацца, што здарылася з ёю.

— Ничего, вы идите вперёд, а она здесь останется. Не ждите её, — сказаў нам нейкі афіцэр.

Было нам непрыемна, але што мы маглі зрабіць у такой сітуацыі. Сталі ісці далей, у напрамку Гайльсберга, каб потым павярнуць на Зэебург (цяпер Езёраны). Раптам нагнаў нас аўтамабіль, а ў ім капітан і Лідка.

— Попрощайтесь! — сказаў капітан.

Лідка са слязамі ў вачах абняла кожнага з нас і пацалавала, затым села ў машыну, якая вярнулася ў Гайльсберг. Як мне шкада было беднай Лідкі! І хто з нас думаў, што такім будзе развітанне? І куды ён павёз яе? Ці яна так яму спадабалася, што забраў яе для сябе?

З намі пайшлі Вера і Насця. Паабапал шашы ляжала мноства трупаў, забітых коней і вывернутых вазоў з усім хатнім дабром. У адным месцы мы заўважылі забітага салдата з эмблемай РОА, якому нехта ў рот увапхнуў задушанага пеўня. Відаць, для жарту... Мы так прывыклі да віду трупаў, што амаль не звярталі ўвагі на іх. Пад'ехаў да нас лёгкаранены салдат на кані, які хацеў папасці ў ваенны шпіталь у Зэебургу. Спадарожнічаў ён нам з гадзіну, а пасля адлучыўся, каб паабедаць у нейкім доме.

Мы ішлі далей. Пад вечар з невялікага дома, што стаяў ля шашы, выскачылі два п'яныя салдаты з аўтаматамі ў руках з крыкам:

— Кто вы?

— Мы поляки, — сказаў са страху Валянцін, — чего вы от нас хотите?

— Мы у вас ничего не хотим, — сказаў больш цвярозы салдат. — Вы идите, но девушки останутся здесь.

— Уходите! — махнуў аўтаматам другі салдат.

Мы хутка адышлі з дзвесце метраў і спыніліся. Думалі, што дзяўчат праз нейкі час адпусціць. Пад'ехаў ранены салдат. Сказаў, што бачыў дзяўчат і што яны неўзабаве павінны надысці. Мы пачакалі з паўгадзіны. Стала вечарэць, але Вера з Насцяй не з'явіліся. Нам трэба было шукаць месца на начлег. Увайшлі мы ў прыгожы пусты дом. У ім сябры знайшлі масла, хлеб, мяса, яйкі, а нават вішнёвае варэнне. Пэтэр прынёс дроў, распаліў агонь пад плітой, зрабіў гарачую вячэру з кавы і яешні. Нам было вельмі прыкра, што з намі няма нашых дзяўчат. Што з імі зрабілі п'яныя салдаты? Чаму яны да нас не дайшлі? Мы нікол і не думалі, што такое можа з імі здарыцца.

Пасля вячэры мы разлажыліся ў спальні, дзе былі чатыры ложкі з пярынамі. Пасля папярэдняй непрыемнай ночы я хутка заснуў.

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. канец малітвы, 8. базар, 9. спакойнае, шчаслівае існаванне, 10. каралавы востраў, 11. працяжны гук, сігнал, 13. адзінка вымярэння сілы электратоку, 14. пракантынент, з якога паўсталі м. інш. Афрыка, Аўстралія і Антарктыда, 15. напр. два, 19. старадаўняе судна ў міжземнаморскіх краінах, 21. апякунства, 22. насякомае з джалам, 25. падзея, выпадак, 27. рака ў Бразіліі, 28. зберагае помнікі мінулага, 29. завостраны брусок, 30. аўтар „Аіды", 31. мусульманства, 32. ансамбль з трох выканаўцаў.

**Вертыкальна:** 1. савецкі аўтамабіль, 2. брус паміж вушакамі, 4. сукупнасць метадаў выканання, 5. афрыканская рака, 6. Рыгор, беларускі музыказнаўца і этнограф, 7. дакумент прыналежнасці да арганізацыі, 12. сталіца Непала, 13. жаночае імя, 15. цвіце ў ліпені, 16. сталіца Эквадора, 17. упэўненасць, перакананне, 18. вясковы дом, 20. прыём у студэнты, 23. пералік, 24. будаўнічы матэрыял для пакрыцця даху, 25. супадзенне думак, дамоўленасць, 26. думка нязгодная з догматам, 29. вялікая марская жывёла.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 6 н-ра:**

**Гарызантальна:** манера, зводка, капрон, кока, брас, канцэнтрат, сава, Кіль, мінтай, казуля, валюта.

**Вертыкальна:** малако, рака, звон, каркас, прэтэндэнт, какава, браткі, сарока, льгота, міля, айва.

**Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Галена Тапалянская з Трасцянкі і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.**




Астроне, сніўся мне сон пра нейкую краму са старым адзеннем. Там я збіралася купіць нямодныя, старыя, але ў добрым стане чорныя туфлі.

Другі сон быў зусім кашмарны. Снілася мне, што возімся з труною з нябожчыкам у такім стане ўжо чатырнаццаты дзень. Гэтым нябожчыкам была то мая супрацоўніца, — пажылая жанчына, то нейкая незнаёмая бабуля. З гэтым „багажом" усё былі нейкія праблемы.

**Настуля**

Дарагі Астроне, я ізноў да цябе. Бач, што мне прыснілася. Не магу сказаць, ці знаходжуся я ў касцёле, ці ў школе. Сяджу на лаўцы, ды... трымаю чорную курыцу. Яна неспакойная, трапечацца, скача. Нехта кажа: „На што ж ты яе сюды прынесла?". І я прачнулася.

У другім сне сніцца, што я ў ліфце. Трымаю мяса. Вязу яго брату (ён ужо не жыве). Ды дзесьці яно падзелася. Высядаю з ліфта, а брата няма.

Што абазначаюць мае гэтыя сны?

**Кацярына**

Настуля! Твой першы сон гаворыць пра нейкую небяспечную гульню (старое адзенне), сумнае падарожжа (чорныя туфлі). Што датычыць другога сну, дык выразна прадвяшчае ён табе нейкую небяспеку.

Кацярына! І цябе, на жаль, нічым добрым не магу пацешыць. Будзеш мець клопаты з нейкім прыбыткам (курыца -прыбытак была чорная, а найгорш, што неспакойная, трапяталася і скакала). У выніку застанецца толькі смутак. Другі сон як бы пацвярджаў першы, бо мяса сырое бачыць ці есці — не інакш, як хвароба ці смутак.

**АСТРОН**

# АДПОМСЦІЛА

Ганна і Ярэк пазнаёміліся на практыцы ў бальніцы. З той пары часта сустракаліся, марылі аб супольнай будучыні.

— Паконч ым навукі, пабярэмся, — прапанаваў Ярэк.

Падабаўся Ганне гэты вельмі прываблівы хлапец: не адна дзяўчына зіркала на яго, а ён вось за сваёй Ганяй свету не бачыў.

— Што з вас за пара? Ён доўгі, як вежавы кран, а ты малюсенькая, як гномік. Вазьмі ды дапасуйся ў ложку! — смяяліся сябры.

Закаханая пара толькі ўсміхалася на жарты.

Прайшлі гады. Закончыўшы акадэмію, маладыя звянчаліся. Праз год нарадзіўся ім сынок.

І тады пачалося! Муж не хацеў дапамагаць дома. Дзіцё трактаваў як шчанюка.

— Ці так адносіцца да сям'і адукаваны чалавек, лекар? — плакала Ганна.

— „Ці так?! Ці так?!" — крыўляўся муж. — Ты сама хацела гэтага звярка, то яго гадуй!

Часта такі абмен поглядамі канчаўся бойкай. Муж не шкадаваў, біў Ганну па галаве.

Урэшце, Ганна рашыла адпомсціць. Калі муж кінуўся яе біць, ускочыла на канапу, схапіла з паліцы гіпсавую статую і, адбіваючыся, ударыла ёю па мужавай галаве.

Ярэк упаў. Ганна прынесла халоднай вады, пачала яго ратаваць.

— Што ты мне зрабіла? — застагнаў, апрытомнеўшы.

— Нічога. Толькі цяпер так будзе заўсёды, падымі толькі на мяне руку! Альбо жывем як сям'я, альбо — разводзімся. Рашай.

Стаў Ярак як не той чалавек. Не чакае жонкі, з малым ходзіць на прагулкі. Не заве яго ўжо „звярком", але Чэсенькам!..

**АЎРОРА**

## Актыўныя пенсіянеры — актыўны ансамбль

Гмінны гурток пенсіянераў у Крынках налічвае звыш ста асоб. Узначальвае яго Уладыслава Саланевіч. Пенсіянеры стварылі мастацкі ансамбль. Зараз у ім 20 чалавек. Вядзе яго інструктар Гміннага асяродка культуры Уладыслава Яновіч. У хоры спяваюць жанчыны (іх 15) і мужчыны (5).

Харавы ансамбль з Крынак пабываў з канцэртамі ў розных гарадах і мястэчках Беласточчыны ды двойчы выступіў у Беластоку. Ездзіў з канцэртам і за нашую ўсходнюю мяжу — у Вялікую Бераставіцу (Рэспубліка Беларусь), дзе быў запрошаны суседзямі на фэстын.

Апошнія канцэрты крынкаўскага хору былі: 6 сакавіка — у Крынках і 8 сакавіка — у Гмінным асяродку культуры ў Шудзялаве.

Найбольш актыўныя пенсіянеры з Крынкаўскай гміны былі ўзнагароджаныя ганаровымі залатымі значкамі Саюза пенсіянераў і інвалідаў. Атрымалі іх: Уладыслава Саланевіч (у 1991 годзе), Баляслава Юрчэня (у 1992 годзе) ды Ірэна Дзюрдзь і Ян Юрчэня (23 студзеня 1994 года). Віншуем!

**(яц)**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**БУЛЬБА ПА-БАЯРСКУ**

Прадукты:
*40 дэкаў бульбы,*
*30 дэкаў тварагу,*
*10 дэкаў масла,*
*3 яйкі,*
*1/2 шклянкі малака,*
*соль.*

Зварыць бульбу ў мундзірах, абабраць яе, нарэзаць скрылёчкамі, пасаліць. Паловай бульбы абкласць дно і бакі формы, змазанай маслам. Тварог і масла расцерці да гушчыні добрай смятаны, палажыць на бульбу, накрыць рэштай бульбы. Страву заліць малаком, змешаным з жаўткамі. Запякаць у духоўцы каля гадзіны.

**ГАСПАДЫНЯ**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## З КОНКУРСУ ПРЫПЕВАК ГАЗЕТЫ „ЗВЯЗДА"

Крукам выгнуўшы спіну
Цягнем песеньку адну:
„Забяры, Масква, у зону,
Жыць не можам без прыгону".
*(Тадэвуш Маеўскі)*

Я ж Шушкевіча люблю —
Ён народу блізкі.
Мовай нашай размаўляе
Роднаю з калыскі.
*(Зінаіда Рудольская)*

Ну а Кебіч з роднай мовы
Толькі вывучыў тры словы:
„Станісалаў, бывай здаровы!"
*(Вольга Сокал)*

Ельцын грае на гармоні,
Кебіч — у бубен пальчыкам.
А Расія не жадае
Парадніцца з „зайчыкам".
*(Андрэй Губіч)*

Брат старэйшы мой багаты,
А я бедна Беларусь.
Спадара каб хто насватаў —
Я таксама разжывусь.
*(Лідзія Латош)*

## СЕНТЭНЦЫІ

Кот не чуе рыку мышэй.

* * *

Пустаслоўе — вэксаль без пакрыцця.

* * *

Мелодыя — ліст з дрэва музыкі.

* * *

Лінію пейзажу рысуе вока ўяўлення.

* * *

Певень — будзільнік вёскі.

**БАРЫС РУСКО**







*Малюнак А. Каршакевіча*

## У ЦЫРУЛЬНІ

Крэсла рыпнула, масніца —
мажны хлопец сеў галіцца.
А цырульнік справу знае:
за каўнер сурвэтку пхае,
мыла мыліць, лоўка брые
і міжволі: „Ну і шыя!.."

Хлопец важна пазірае:
„Многа сала я ўжываю".

Карак тлусты сапраўды,
ды не бачыў ён вады.
Ні пры чым тут тое сала,
што сурвэтка брудная стала,
за анучу не чысцей —
шыю трэба мыць часцей!

**ГЕНАДЗЬ МАНКЕВІЧ**

## МІЖ НАМІ

— Ці ведаеш, як Андрэй папаўся на крадзяжы збожжа ў суседзяў?
— Не ведаю.
— Яго жонцы абрыдла, што муж злодзей, і рашыла яго правучыць. Зрабіла ў мяшку дзірку. Калі Андрэй выносіў збожжа са свірна Мікіты, зерне высыпала дарожку. Мікіта вызваў паліцыю. Андрэя злавілі і пакаралі турмою.
— Жонка, пэўна, плача?
— Не. Кажа: добра яму так, красць адвучыцца.

**Не кажы, што кішэні пустыя**

— Не раз мы кажам, што кішэні ў нас пустыя. Так нельга гаварыць, — кажа пажылая жанчына.
— Чаму? — здзіўляюцца дзяўчаты. — Кожны ж ведае, ці кішэні ў яго пустыя, ці не.
— Не заўсёды. Так можна сказаць толькі дома, а не ў дарозе. Я паехала ў Гайнаўку. На рынку прадала яйкі. Пахадзіла па крамах з адзеннем, пасля зайшла ў спажывецкую, купіць пірожнае. Чарга была вялікая. Я стаяла, стаяла, сунула руку ў кішэнь, а там — два кашалькі! Адзін мой, а другі хтосьці мне ўкінуў — абакраў кагосьці, а мне ўсадзіў пусты. Я здранцвела. Хутка пабегла на вакзал і ў туалеце выкінула гэты кашалёк. Баялася ісці ў горад. З тае пары, каб іду ў горадзе ў краму, заўсёды правяраю, ці... кішэні ў мяне пустыя.

**Улюбёны колер**

— Дзедку, — пытае Міхася дзесяцігадовы ўнук Юлік, — які для цябе найлепшы колер, і чаму?
— Два ўлюбёныя колеры ў мяне — белы і цёмна-карычневы. Колеры чыстае гарэлкі і піва.

**АЎРОРА**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

Разумнымі людзьмі ўжо даўно заўважана, што нельга рабіць дакладныя копіі жывых істот, а тым больш гістарычных асобаў. Некаторыя рэлігіі катэгарычна забараняюць гэта, бо небяспека падобнага відавочная. Адзіночныя помнікі і нават скульптурныя групы могуць ажываць, і дзеянні іх часам цалкам непадказальныя. Навукоўцам даўно вядомы від, які ў акадэмічным пачваразнаўстве атрымаў класіфікацыйную назву Помнікавыя пачвары. Беларускія гарады перанасычаныя творамі манументальнае прапаганды, і ў гэтым сэнсе яны з'яўляюцца зонамі павышанай рызыкі. Усім вядомая жахлівая, але тым не менш цалкам праўдзівая гісторыя Каменнага Госця і Дон Гуана, але гісторыі падобнага кшталту, што адбываліся і адбываюцца ў нашай Бацькаўшчыне, яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў. Мы ж падаем толькі некаторыя з іх...

### „Пагоня" (Вершнік без галавы)

Пасля чарговага абвяшчэння Беларусі незалежнай дзяржавай з'явілася вострая патрэба ў помніку-сімвале перад Домам Урада, тым больш, што ранейшы цалкам не адпавядаў палітычнай кан'юнктуры. Камісія па пераацэнцы маральных каштоўнасцяў нацы пры Савеце Міністраў зрабіла заказ вядомаму скульптару А. З-гурману зрабіць конны помнік, які б увасабляў „Пагоню". Абачлівы майстра, які пасспяхова задавальняў патрэбы ўсіх папярэдніх рэжымаў, удала выканаў заказ, але на ўсялякі выпадак зрабіў вершніку некалькі зменных галоваў (Леніна, Пілсудскага, Суворава і Скарыны) дзеячоў розных палітычных і культурных плыняў, каб пры чарговым перавароце ўлады не перараблядь твор цалкам. Але, нягледзячы на такі звышасцярожны падыход, камісія не спяшалася ўсталяваць помнік, бо не магла прадказаць рэакцыі „старшего русского брата". Вершнік без галавы так і застаўся ў майстэрні мастацкага кабінета, і неўзабаве на яго забыліся ўсе, нават сам А. З-гурман. Больш за тое — пры чарговай інвентарызацыі высветлілася, што конная скульптура знікла — праўда, на складзе застаўся поўны камплект зменных галоваў. У афіцыйным акце было пазначана, што яе выкрылі гандляры каляровымі металамі, але на самай справе было не так...

Аднаго дня знакамітага скульптура знайшлі ў калюжыне крыві з адрэзанай галавой, да таго ж самой галавы так і не адшукалі. Вартыя даверу сведкі сцвярджалі, што на начных вуліцах беларускае сталіцы часам можна пабачыць бронзавага вершніка ў геральдычных латах, да шыі якога прыстаўлена зніклая галава небаракі-скульптара.

Такім чынам яшчэ раз пацвярдждаецца адвечнае правіла: сапраўдны мастак не павінен падпадаць пад уздзеянне палітычнай кан'юнктуры.

*(працяг будзе)*

**ФРАНЦІШАК ХЛУС
І МАРЦІН ЮР**

## БЕЛАРУСКІЯ ДЗЯЎЧАТЫ

*Музыка З. Яўтуховіча
Словы М. Кавыля*

Я прыехаў з Беларусі,
Прыгажунямі багатай.
Там ёсць Зосі і Алесі,
Сінявокія дзяўчаты.

**Прыпеў:**
Хто адзін раз іх пабачыць,
Будзе вечна закаханы.
Я жадаю вам удачы,
Сіньёрыты, донны, панны...

Вы, фраляйны, сіньёрыты,
Мадэмуазелі, донны, панны...
Я прымаць буду іспыты
Прыгажосці беззаганнай.

**Прыпеў.**

Ды скажу вам пад сакрэтам —
Пойдзеце з нічым дахаты:
Прыгажэйшыя на свеце
Беларускія дзяўчаты.







Добры дзень, дарагое Сэрцайка! Хачу я прасіць у цябе добрай рады. Пішуць жа табе людзі ў розным узросце ды пра розныя справы, ды і я асмелілася напісаць табе пра свае праблемы. Не ведаю, як іх вырашыць.

Мы жывем ужо з мужам 15 гадоў. Мужу майму цяпер 45 гадоў, а я — на 10 гадоў маладшая. У нас дзве дачкі. Да нейкага часу мы жылі вельмі добра, а менавіта пакуль мой муж не вырашыў, што пара мець ужо сына. Усюды і ўсім гаворыць, што сын мусіць быць. А я пяць гадоў таму назад так нешчасліва зацяжарыла, што скінула дзіця. Ляжала ў бальніцы, і лекары забаранілі мне пасля гэтага мець дзяцей. Кожная наступная цяжарнасць можа скончыцца смерцю, папярэдзілі мяне. Мне ад гэтай весткі стала моташна. Мне ж таксама хацелася б мець яшчэ дзіцятка, асабліва сына.

Але якраз тады паўстала між мною і мужам прорва. Муж не хацеў прыняць да ведама, што ў выніку наступнай цяжарнасці я магу памерці. Не верыў у гэта. Усё часцей узнікалі між намі непаразуменні і сваркі. Муж пачаў штораз часцей піць запоем. Усё гэта давяло да аслаблення майго арганізма, я стала вельмі нервовая, часта хварэю.

Што датычыць нашых палавых зносін, дык дагэтуль усё было нармальна. Мы не прымянялі ніякіх антыканцэпцыйных сродкаў, а толькі каляндар і перарываныя зносіны. Сёння я гэтага кожны раз вельмі баюся, бо мой муж, калі толькі вып'е, а я з ім сваруся, дык кажа, што і так зробіць мне сына. У бальніцы мае пачуцці да яго астылі, я абыякава ўспрымаю яго пяшчоты, але найгорш, што баюся яго. Часамі нават маю ахвоту ўцячы ад яго, але куды? У такія моманты ў галаву прыходзяць мне думкі, што гэта не ён цяпер са мною ў пасцелі, а нехта іншы, хто мне сапраўды патрэбны і каго я кахаю ў думках, з заплюшчанымі вачыма.

Сэрцайка! Напішы мне, калі ласка, ці добра я раблю, ды і наогул хлушу, калі прытвараюся, што ўсё ў парадку. Парай мне, што рабіць, каб наша сям'я не развалілася зусім, ды якія сродкі прымяняць, каб не зацяжарыць. Я хацела б, каб гэта былі добрыя сродкі. У аптэках мне прапанавалі розныя таблеткі, але я баюся, што яны не даюць стопрацэнтнай гарантыі. Ці лепш пайсці ў бальніцу і няхай мне зробяць аперацыю, каб не мець дзяцей? Яшчэ раз прашу, напішы хутчэй, бо я баюся штораз больш, а мой муж нічога не хоча ні слухаць, ні прымяняць.

**Марта**

Марта! Справа сапраўды цяжкая, але мужчыны часта бываюць такімі эгаістамі. Думаю, яны проста не ўяўляюць сабе, што перасцярогі лекараў могуць быць праўдай. І таму менавіта твой муж так дамагаецца сына. А зрэшты, хто дасць гарантыю, што не народзіцца зноў дачка?

Думаю, што, калі хочаш утрымаць сям'ю, ты павінна з мужам пагаварыць канкрэтна, а мо нават разам з ім пайсці да лекара-гінеколага, няхай яму ўсё растлумачыць, а табе няхай доктар параіць, якія таблеткі будуць пэўныя, што не зацяжарыш і не будуць мець негатыўнага ўздзеяння на твой арганізм. Сёння сродкаў так шмат, што кожнаму пацыенту лекар можа падабраць індывідуальна. З той аперацыяй няма ўпэўненасці, ці табе яе зробяць. Дык і навошта, калі ёсць столькі сродкаў! Гэта ўсё ж хірургічнае ўмяшанне.

Усё гэта пры ўмове, што твае ўяўленні пра іншага — толькі сюррэалізм.

**СЭРЦАЙКА**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016